# Рэгіянальная газета.

Rh.by

rg_rhby

rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

30 красавіка 2021 года №18 (1357)

18+







# Вяз у Талуях прызналі батанічным помнікам рэспубліканскага значэння

## А ўсё пачалося з публікацыі ў «Рэгіянальнай газеце» і ініцыятывы неабыякавых людзей


старонка 20


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.




ISSN 1991–7155





Адсканвъншніце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Дзе ўзяць бясплатныя саджанцы дрэў і кустоў?

**Хочаце азеляніць свой участак, вёску, школу? Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) расказвае, як атрымаць саджанцы з лесу.**

Сакавік і красавік – лепшыя месяцы, калі можна без праблемы перасадзіць дрэвы і кусты.

**Каліна, рабіна, крушына ўпрыгожаць участак і пачастуюць насякомых нектарам, калі цвітуць увесну, а ўзімку падораць ягады і насенне птушкам.**

Проста так выкапаць у лесе маладыя дрэўцы і кусты нельга паводле артыкула 16.17 Адміністрацыйнага кодэкса – памеры штрафаў вагаюцца ад 5 да 300 базавых велічынь. Але можна атрымаць для асабістых патрэб бясплатныя саджанцы, звярнуўшыся ў бліжэйшы лягсас ці лясніцтва.

– Супрацоўнік расскажа пра тое, дзе і якія пароды дрэў і кустоў можна выкапаць, і дамовіцца з вамі на канкрэтны дзень, калі вы зможаце гэта зрабіць, – паведаміў кансультант Упраўлення лясной гаспадаркі Мінлягаса **Сяргей Булах**.

**– Ніякіх заяў для гэтага пісаць не трэба, абмежаванняў па колькасці дрэў ці кустоў няма.**

Звычайна выкопваць саджанцы дазваляюць на ўчастках, дзе плануецца высечка, або там, дзе пад буйнымі дрэвамі расце шмат маладняку. Такім дрэўцам цяжка выжыць праз унутраную канкурэнцыю: раслінам не хапае святла і харчовых рэчываў. Вы можаце працягнуць ім жыццё, перасадзіўшы на свой падворак.

**Аляксандр Вінчэўскі**, дырэктар АПБ:

– У Валмянскім лясніцтве Чэрвеньскага лягсаса мне ўдакладнілі, што без праблем любыя саджанцы дрэў і кустоў можна забіраць з-пад ліній ЛЭП, якія праходзяць праз лясы. Звычайна пад імі знішчаюць амаль усе дрэвы, але калі вы нешта знойдзеце – можаце забраць сабе бясплатна. На ўсялякі выпадак, удакладніце гэту інфармацыю ў суседнім лясніцтве.

**Ахова птушак Бацькаўшчыны.**



Фота pixabay.com

Рабіна ўпрыгожыць участак і пачастуе насякомых нектарам.

# У лясгасе палічылі дзікіх жывёл

## Глядзіце, каго колькі

ВІЛЕЙКА

**Днямі ў Вілейскім доследным лясгасе палічылі некаторых жывёл. Вынікамі падліку з карэспандэнтам падзяліўся вядучы інжынер па паляўнічай гаспадарцы Юры Самуйлаў.**

Найбольш у лясах Вілейшчыны казуль – іх 400. А вось ваўкоў можна лічыць рэдкімі жывёламі. Гэтых драпежнікаў налічылі шэсць. Янотаў на Вілейшчыне не заўважылі ніводнага.

**Рысяў – пяць. Гэтых прадстаўнікоў Чырвонай кнігі ў Вілейскім доследным лясгасе палічылі для Нацыянальнай акадэміі навук.**

Пра тое, якімі спосабамі лічаць дзікіх жывёл у лесе, мы пісалі ў №17 «Рэгіянальнай газеты».

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Інфаграфіка аўтара.**

## Колькі жывёл у лясах Вілейшчыны




**Дадзеныя прадстаўлены Вілейскім доследным лясгасам.**

## Калінінградскія цягнікі сталі дадаткова спыняцца ў рэгіёне

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ

Такое новаўвядзенне – ад 22 красавіка.

Цяпер на станцыях у Маладзечне і Смаргоні спыняюцца наступныя цягнікі:

**№30/29 Калінінград-Масква** – па станцыях Смаргонь і Маладзечна з магчымасцю праезду пасажыраў на ўчастках Маладзечна-Масква і Масква-Смаргонь;

**№80/79 Калінінград-Санкт-Пецярбург** – па станцыях Смаргонь, Маладзечна, Крулеўшчына, Полацк, Шуміліна з магчымасцю праезду пасажыраў на ўчастку Смаргонь-Санкт-Пецярбург-Смаргонь;

**№360/359 Калінінград-Адлер** – па станцыях Смаргонь, Маладзечна, Барысаў з магчымасцю праезду пасажыраў на ўчастку Смаргонь-Адлер-Смаргонь.

**Паводле сайта Беларускай чыгункі.**

## Маладзечанскую ЦРБ занясуць на рэспубліканскую Дошку гонару

МАЛАДЗЕЧНА

Указ пра гэта Аляксандр Лукашэнка падпісаў 21 красавіка.

Згодна з дакументам, Маладзечанская ЦРБ прызнаная пераможцам рэспубліканскіх спаборніцтваў сярод арганізацый аховы здароўя.

Маладзечанская ЦРБ разам са Жлобінскай і Лунінецкай была ў тройцы лепшых раённых бальніц па выніках конкурсу, які ладзіла Міністэрства аховы здароўя.

**Паводле president.gov.by.**

## Як будуць працаваць у рэгіёне бальніцы, паліклінікі і аптэкі на майскія святы

Аказанне медыцынскай дапамогі людзям у выхадныя і святочныя дні ў маі арганізуюць наступным чынам.

Бальніцы 1, 9, 11 мая будуць працаваць па графіку святочнага дня, 2 мая – выхаднога, 8 і 15 мая – суботняга і 10 мая – па графіку рабочага дня.

Змены закрануць таксама паліклінікі, санітарна-эпідэміялагічныя арганізацыі, аптэкі, магазіны медтэхнікі.

1, 9 і 11 мая яны будуць працаваць як у святочны дзень, 2 мая – як у выхадны, 8 і 10 мая – па графіку суботы, а 15 мая – па графіку рабочага дня.

**Міністэрства аховы здароўя.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**212 600**

столькі квадратных метраў агульнай плошчы жылля пабудавалі для шматдзетных сем'яў у студзені-сакавіку.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.04 | 29.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5980 | **2.5633** |
| Еўра | 3.1209 | **3.0939** |
| Злоты, 10 | 6.8495 | **6.7498** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3814 | **3.4213** |
| Грыўня, 100 | 9.2328 | **9.2263** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 22.04 | 29.04 |
| Еўра | 3.0800/3.1600 | **3.0500/3.1300** |
| Долар ЗША | 2.5600/2.6300 | **2.5400/2.6100** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 21.04 | 28.04 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,90 | **23,86** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,30 | **4,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,00 | **–** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,50 | **6,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 4,00 | **4,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,40 | **2,40** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,60 | **2,60** |
| Агуркі, 1 кг | 2,60 | **4,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,20** |
| Капуста маладая, 1 кг | 3,20 | **2,90** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | **6,90** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **7,50** |
| Радыс, 1 кг | 6,00 | **6,90** |
| Салата, пучок | 0,75 | **0,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля-сявок, 1 кг | 6,00 | **4,50** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **6,80** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 3,70 | **3,90** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **8,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **5,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 17,00 | **15,00** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **5,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Праверылі, як гаспадаркі гатовыя да пасяўной

Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці разгледзеў вынікі праверак падрыхтоўкі да пасяўной.

У шэрагу гаспадарак у Маладзечанскім, Крупскім, Пухавіцкім, Барысаўскім, Чэрвеньскім раёнах не ўсю тэхніку падрыхтавалі да працы. Пры гэтым скажалася афіцыйная справаздачнасць. У асобных гаспадарках не назапасілі патрэбнай колькасці мінеральных угнаенняў, не забяспечылі прадпрыемствы паливам і якасным пасяўным матэрыялам. Забяспечанасць насеннем грэчкі ў сельгасарганізацыях Мінскай вобласці 7 красавіка была 86 працэнтаў. Пры гэтым у Вілейскім раёне адпавядала патрабаванням толькі 23,1% насення, у Валожынскім – 9,6. У Лагойскім раёне з наяўных дзесяці тон насення грэчкі ні адна не адпавядала пасяўным кандыцыям. У некаторых гаспадарках няправільна захоўвалі ўгнаенні.

Па выніках кантрольных мерапрыемстваў Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці прапанаваў органам дзяржкіравання і іншым зацікаўленым разгледзець пытанне аб прыцягненні вінаватых службовых асоб да адказнасці, прыняць меры па ныхільным выкананні сельскагаспадарчымі арганізацыямі галіновых рэгламентаў і завяршэння палявых работ у аптымальныя тэрміны, а таксама недапушчэнні ў далейшым скажэння аператыўнай справаздачнасці.

**Упраўленне кантролю за работай аграпрамысловага і прыродаахоўнага комплексаў Камітэта дзяржаўнага кантролю Мінскай вобласці.**

## Расіяніну далі 17 год турмы за перавоз 59 кілаграмаў гашышу

**АШМЯНЫ**

Суд Ашмянскага раёна асудзіў 50-гадовага расіяніна па двух «наркатычных» артыкулах на 17 гадоў турмы.

Справу разгледзелі 13 красавіка ў ашмянскім судзе. Грамадзяніна Расійскай Федэрацыі абвінавачвалі па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса: за незаконны абарот і незаконнае перамяшчэнне праз мяжу Еўразійскага эканамічнага саюза або Дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў або іх прэкурсораў або аналагаў.

У 2016 годзе абвінавачаны стаў членам міжнароднай злачыннай групоўкі, якая дзейнічала на тэрыторыі Расіі, Іспаніі, Эстоніі і іншых краін. Хто яе ўзначальваў – невядома.

28 студзеня 2019 года абвінавачаны выехаў з Расіі ў Эстонію. Там перадаў невядомай асобе гашыш, які гэта асоба перавезла пасля ў Іспанію. Затым абвінавачаны паехаў у Іспанію, там атрымаў ад іншага ўдзельніка групоўкі аўтамабіль. У аўтамабілі былі тайнікі, у якіх схавалі каля 59 кілаграмаў гашышу.

Далей мужчына выехаў з Іспаніі ў бок Расіі. На мяжы Літвы з Беларуссю ў пункце пропуску «Каменны Лог» яго аўтамабіль праходзіў мытны дагляд, падчас якога знайшлі гашыш. Абвінавачанага прызналі вінаватым па двух артыкулах. Ашмянскі суд прызначыў пакаранне ў выглядзе 17 год узмоцненага рэжыму. У мужчыны канфіскавалі аўтамабіль і два мабільныя тэлефоны.

**Прэс-служба Гродзенскага абласнога суда.**

## У Палачанах аўтамабіль насмерць збіў жанчыну

**МАЛАДЗЕЧНА**

Смяротная аварыя адбылася 23 красавіка позна вечарам у Палачанах.

30-гадовы кіроўца-маладзечанец на аўтамабілі «Форд-Мандэа» ехаў па вуліцы Савецкай у Палачанах з боку Маладзечна ў бок Валожына. Каля дома №85 наехаў на пешахода – 77-гадовую жыхарку Палачанаў.

– Жанчына пераходзіла дарогу там, дзе не было пешаходнага перахода злева направа адносна машыны. Яна загінула. Кіроўца цвярозы. Жанчына была без флікера. Матэрыялы праверкі – у Маладзечанскім РАСК, – паведаміла карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Прыязджаў намеснік міністра МНС

**МАЛАДЗЕЧНА**

23 красавіка намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Юржыц** наведаў Маладзечанскі раён.

Ён паўдзельнічаў у пашыраным пасяджэнні райвыканкама. Тут прааналізавалі факты гібелі людзей ад знешніх прычын на Маладзечаншчыне, у тым ліку на пажарах, а таксама ацанілі працу ГРАНС.

У гэты ж дзень прадстаўнік кіраўніцтва міністэрства сустрэўся з ГРАНС Маладзечна і ўзнагародзіў работнікаў падраздзялення Мінскай вобласці.

**ГРАНС Маладзечна.**







Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Калі мужчына выйшаў у Маладзечне, заўважыў, што няма партаманета.

# Знайшла партаманет з 1500 еўра ў цягніку і вярнула яго гаспадару

**МАЛАДЗЕЧНА
МЯДЗЕЛ**

**22 красавіка ў перыяд часу ад 15:35 да 16:37 знік партаманет у цягніку, што рушыў з Гудагая на Мінск.**

Гэты партаманет належыць 45-гадоваму жыхару Мядзельскага раёна **Аляксандру**. Калі ён выйшаў з цягніка на станцыі Маладзечна, то заўважыў, што партаманета няма. А ўнутры былі дакументы, 1400 еўра і 115 долараў.

Мужчына падаў заяву ў міліцыю.

На наступны дзень каля шасці раніцы Аляксандру патэлефанавала на мабільны тэлефон 51-гадовая жыхарка Чысці **Валянціна**. Яна паведаміла, што знайшла ў электрычцы партаманет з дакументамі і грашыма. У той жа дзень усё вярнула.

Ад 28 да 30 красавіка Маладзечанскі АУСТ будзе праводзіць прафілактычнае мерапрыемства з мэтай забеспячэння асабістай і маёмаснай бяспекі пасажыраў.

**Каб не стаць ахвярай на чыгунцы:**

- маёмасць захоўвайце пры сабе;
- сумкі і чамаданы кладзіце пад сядзенні ці на спецыяльна адведзеныя для багажу месцы;
- не пакідайце рэчы без нагляду;
- не пакідайце рэчы незнаёмым;
- не піце алкаголь у цягніку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Здарыліся чатыры пажары за выхадныя

**МАЛАДЗЕЧНА**

Спецыялісты падазраюць падпалы ва ўсіх выпадках, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

23 красавіка ў 18:30 выратавальнікам паведамілі пра ўзгаранне гаражнага бокса па вуліцы Прытыцкага ў Маладзечне. У выніку пашкоджаная маёмасць, сцены і столь. Прычына пажару высвятляецца. Меркаваная – падпал. Пацярпелых няма.

24 красавіка каля 18 гадзін паступіла паведамленне пра пажар на тэрыторыі прадпрыемства «БелПрагрэсКампані». Гарэлі драўляныя паддоны. Меркаваная версія ўзнікнення пажару – падпал або неасцярожнае абыходжанне з агнём. Пажар знішчыў пяць драўляных паддонаў, закураная вонкавая цагляная сцяна будынка, пашкоджаны металапрофільны навес.

25 красавіка ў 5:15 паступіла паведамленне пра пажар у вёсцы Вязынка, у садовым таварыстве «Прамень». Па прыбыцці ўстаноўлена, што пажар адбыўся ў двух дачных дамах. Прычына пажару высвятляецца. Меркаваная версія пажару – падпал. У выніку знішчаны адзін дом цалкам, у другім пашкоджаны акно і ўваходныя дзверы.

МНС папярэджвае: не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі. У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары 101 ці 112, не забываючы ўказваць адрас і месца пажару.

**Аддзел інфармацыі.**

## Нідэрландзец ехаў у Беларусь за новым жыццём

**АСТРАВЕЦ**

Грамадзянін Нідэрландаў незаконна перасек мяжу з Беларуссю, бо шукаў тут новае жыццё.

Літоўскія памежнікі паведамілі беларускім, што ўбачылі невядомага равярыста ля мяжы. Ён незаконна перабраўся з Літвы ў Беларусь, а затым схаваўся ў лесе Астравецкага раёна. У выніку парушальніка мяжы затрымалі. Ім аказаўся 48-гадовы грамадзянін Нідэрландаў. Замежнік расказаў, што хацеў пачаць новае жыццё ў Беларусі ці Расіі, але не мог трапіць у гэтыя краіны законна. За парушэнне мяжы грамадзяніна Нідэрландаў чакае штраф і дэпартацыя, пасля якой ён не зможа трапіць у Беларусь пяць год.

**Дзяржаўны пагранічны камітэт Беларусі.**

## Асудзілі на пяць год турмы за хуліганства, абразу і пагрозу гвалтам

**МАЛАДЗЕЧНА**

Суд Маладзечанскага раёна прысудзіў маладзечанцу пяць гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: асабліва злоснае хуліганства, пагроза гвалтам у адносінах да супрацоўніка ўнутраных спраў і публічная абраза прадстаўніка ўлады.

Суд Маладзечанскага раёна прысудзіў 46-гадоваму мясцоваму жыхару, які быў неаднаразова асуджаны, пяць гадоў турмы.

Згодна з матэрыяламі следства, 9 жніўня мінулага года на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне падчас несанкцыянаванага масавага мерапрыемства мужчына ў нецвярозым стане пагражаў гвалтам міліцыянеру, а таксама публічна абразіў яго. А сёлета 15 студзеня гэты мужчына ў стане алкагольнага ап'янення стукнуў шкляной бутэлькай у твар ахоўніку адной з крам у Маладзечне. Прысуд не набыў законнай сілы, можа быць абскарджаны і апратэставаны ў апеляцыйным парадку.

**Паводле Генеральнай пракуратуры.**

# «Думай глабальна, дзейнічай лакальна». Школьніца з Маладзечна выйшла ў чвэрцьфінал у конкурсе сацыяльных праектаў Беларусі

**Маладзечанка Сабіна Рубан заўсёды была актыўная і прагнула рабіць значныя для грамадства праекты. Дзяўчыне ўсяго 16 год, але яна ўжо ўдзельнічае са сваім праектам у буйным беларускім конкурсе Social Weekend.**

«Рэгіянальная газета» расказвае пра захапленні Сабіны і яе праект, які ўвайшоў у чвэрцьфінал спаборніцтваў сацыяльных праектаў.

### Усё пачалося з клуба ЮНЕСКА

Сабіна Рубан вучыцца ў 10 класе ў сёмай гімназіі ў Маладзечне. Яна паглыблена вывучае рускую і англійскую мовы. Акрамя зацікаўленасці ў актывізме, дзяўчына ўдзельнічае ў розных канферэнцыях. Напрыклад, з настаўнікам рускай мовы і літаратуры **Аляксандрам Раінчыкавым** падрыхтавала даследчую працу па літаратуры.

Рубан удзельнічала ў моладзевым творчым форуме «Час жыць». Яго арганізуе **Марына Валасковіч**, а само мерапрыемства праходзіць у Маладзечне. На ім яна выступала з маналогам і вершам. Таксама Сабіна была ўдзельніцай клуба ЮНЕСКА «Планета», а пасля ўзначаліла яго ў восьмым класе. Па словах дзяўчыны, гэта было вялікае дасягненне для васьмікласніцы, бо да яе старшынёй клуба была адзінаццацікласніца.

У тым жа восьмым класе Сабіна з'ездзіла ў «Артэк» на міжнародную змену рускай мовы. Яна ўспамінае, як там пазнаёмілася з дзецьмі з розных краін, а таксама актыўнічала ў розных імпрэзах, ставіла танцы.

### Знаёмства з маладзечанскімі актывістамі

У верасні 2020 года дзяўчыне споўнілася 16 год, і яна ўступіла ў арганізацыю Next Stop – New Life (NSNL). Да гэтага моманту Сабіна дапамагала членам NSNL у рэалізацыі праектаў. Адным з іх яна назвала петыцыю за адмену шарыкаў на выпускных.

Знаёмства з арганізацыяй адбылося дзякуючы суседцы **Ганне Сафонавай**. Жанчына працяглы час была членам NSNL. Сабіна дапамагала ёй з петыцыяй па адмене шарыкаў падчас выпускных.

– У школе паказала петыцыю настаўнікам. Яны падрабязна вывучалі яе перад тым, як падпісаць. І ўрэшце пагадзіліся, удала рэалізавалі ўсё, таму запуск шароў усё-ткі адмянілі.

### Конкурс сацыяльных праектаў

Ідэю для конкурсу сацыяльных праектаў Сабіна прыдумала самастойна. Яна захацела паказаць, як у Маладзечне ад 2015 года рэалізуюцца мэты ўстойлівага развіцця. Дзяўчына адна працуе над праектам, але прызнаецца, што для яе гэта складана.

– Я прыйшла на конкурс з мэтай стварыць кароткаметражны фільм аб рэалізацыі ўсіх 17 мэт устойлівага развіцця ў маленькім горадзе. У ім буду расказваць аб ажыццяўленні праекта ад 2015 года ў Маладзечне.

Сабіна лічыць, што дзякуючы гэтаму фільму людзі даведаюцца пра ўсе 17 мэт, а таксама зверне ўвагу на колькасць гэтых праектаў. Унікальнасць фільма ў тым, што ён будзе цікавы як людзям, якія ў першы раз чуюць пра мэты ўстойлівага развіцця, так і тым, хто ўжо ведае, што гэта такое.

– Людзі змогуць паверыць у свае магчымасці і здольнасці, рэалізаваць у далейшым і свае ідэі па ўстойлівым развіцці, – тлумачыць дзяўчына.

На конкурс рэгістравалі ўсе заяўкі па праектах. Пасля адбывалася народнае галасаванне – за ўдзельніка адпраўлялі смс-паведамленне. Удзельнікі, якія набіралі пэўную колькасць галасоў, праходзілі далей. Сабіна ўспамінае, што гэта быў дастаткова нервовы час, бо яе канкурэнты атрымлівалі больш галасоў, чым яна.

– Прасіла сваіх сяброў, потым знаёмых і зусім незнаёмых людзей, каб за мяне прагаласавалі. Я так актыўна з усімі камунікавала ў сацыяльных сетках, што ў некаторых з іх мяне на нейкі час блакавалі. У апошні дзень галасавання сядзела ў школе, абнаўляла старонку з вынікамі.



Фота забяспечана Сабінай РУБАН.

Сабіна Рубан.

Праект Сабіны «ЦУД(Р)» трапіў у чвэрцьфінал. Цяпер удзельнікі конкурсу вучацца разам з экспертамі. Тыя навучаюць нэтворкінгу, працы са СМІ і іншым карысным рэчам для пачаткоўцаў у розных сацыяльных праектах.

Нэтворкінг – гэта сацыяльная і прафесійная дзейнасць, якая накіраваная на тое, каб з дапамогай кола сяброў і знаёмых, што маюць сувязі ці працуюць у той ці іншай сферы, максімальна хутка і эфектыўна вырашаць цяжкія жыццёвыя задачы і бізнес-пытанні.

**– Сабіна, чаму вы абралі тэму ўстойлівага развіцця для свайго праекта?**

– Калі вы закахаецеся ў чалавека, то не можаце патлумачыць, чаму так здарылася. У мяне якраз так і адбылося. Мне падабаецца гэта тэма. Фраза «Думай глабальна, дзейнічай лакальна» цалкам адпавядае праекту, бо я хачу змяніць свет да лепшага, а пачынаць трэба з маленькага.

**Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Вектра B, універсал, 2,0 дызель, 1997 г.в., 5900 рублёў, торг. Т. (8-029) 7541559.*

• Сітраэн C4 (11), аўтамат, 1,6 л, бензін,112 000 км, седан. Камплект зімовых шын і дыскаў у падарунак. Т. (8-029) 3322133, (8-029) 7602067.*

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Усё для ВАЗ-2106, 2107, б/у. Вілейскі раён. Т. (8-029) 8530042.

• Шыны Dunlop 225/65/R17 M+S, б/у ў добрым стане, 4 шт., 130 рублёў. Каўпакі Toyota R16, арыгінальныя, б/у, 3 шт., 40 рублёў. Т. (8-029) 3363061 Ігар.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, трактар, пагрузчык. Т. (8-029)5524004.*

• Аўтамабіль. Можна з дэфектамі. Т. (8-029) 8794563.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл у любым стане. Т. (8-029) 7587953.*

• Стары матацыкл, каляску да матацыкла, запчасткі. Т. (8-029) 6590477.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра, 1 паверх у 2-павярховым доме, плошча 67 кв.м, у в. Ерхі Вілейскага раёна з выгодамі. Ацяпленне – кацёл на цвёрдым паліве. Т. (8-029) 5094911. Людміла.

• 3-пакаёвая прасторная кватэра з еўрарамонтам ў новым цагляным доме. Цэнтр Маладзечна. Т. (8-029) 6432652.

• 4-пакаёвая кватэра ў пас. Партызанскі альбо абмяняю на жыллё ў рысе горада. Даплата. Т. (8-033) 6795132.*

• Гараж пад бус у вялікім кааператыве №28, 8500 рублёў. Т. (8-029) 7643072.*

• Дачны ўчастак у в. Сечкі (5 км ад Маладзечна) альбо здам у арэнду. 10 сотак, вада, электрычнасць. Нядорга. Т. (8-029) 8771364.*

• Дом 98 кв.м і 20 сотак прыватызаваных у в. Порса Вілейскага раёна. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом №32 у вёсцы Сукневічы, 6 км ад Смаргоні, 45 сотак, лазня чыставая, гараж, кладоўка, вялікая гаспабудова (сарай), склеп, калодзеж, каналізацыя, падводзіцца газаправод. 23600 рублёў. Т. (8-029) 9568511, (8-029) 7850424.

• Дом драўляны ў с/т «Магістраль» в.Лазавец. Т. (8-029) 6243966.*

• Дом у аграгарадку Ілья. Агульная плошча – 90 кв.м. Чатыры пакоі, кухня, санвузел раздзельны. Вялікі ўчастак, сад, хлеў з блокаў, развітая інфаструктура. Кошт – 78 000 рублёў. Т. (8-033) 3103610.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Кучкі Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 5776967.*

• Дом у в. Маркуны, 28 Астравецкага раёна, 10 000 рублёў, торг. Т. (8-029) 3681210.*

• Дом у Валожынскім раёне. Т. (8-033) 3142808, (8-029) 2795589.

• Дом у г. Ашмяны. Гараж, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 1271918.*

• Зруб, домік для калодзежа. Астравецкі раён. Т. (8-044) 4781305.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Дэмантаж любой складанасці. Знос старых дамоў. ІП Буслаўская Е.В. УНП 692013546 Т. (8-029) 5417847.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водапровод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усё для даху і агароджы. Маладзечна, вул. Л.-Роменская, 153А ІП Барчан П.І. УНП 692017128. Т.(8-0176) 580400, (8-029) 2345641.*

• Чыстка, рамонт калодзежаў. Домікі на калодзеж. Каналізацыя пад ключ. Растэрміноўка плацяжу. Пуховіч А.В. УНП 591815033 Т. (8-029) 9188866.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Бензапіла «Штыль-361». Т.(8-033) 3209136.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Крытае гандлёвае месца на рынку ў Маладзечне, 12 кв.м. Т. (8-033) 6028112 МТС.*

• Павільён у Маладзечне, 24 кв.м. Т. (8-029) 7642123.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу. Т. (8-029) 7642123 МТС.*

• Бульбу. Т. (8-029) 8603066, Наташа.*



• Ціскі любыя. Т. (8-029) 8794563.*

### АДДАМ

• Аддам трумо (тумба з люстэркам) у добрыя рукі. Колер карычневы, паліраванае. Т. (8-029\0 6458473.*

• Аддам шчанят, сярэдняга росту і злосці, сумесь аўчаркі, 2 шт., у клапатлівыя рукі. Крэўскі с/с, Смаргонскі р-н. Т. (8-044) 7438947.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Будаўнікі для рамонту цаглянага дома ў в. Забрэззе. Т. (8-029) 6162240.

• Пакаёўка (горничная) 1-2 разы на тыдзень. Т. (8-029) 6130457.*

• Памочнік па гаспадарцы з пражываннем. Т. (8-029) 6130457.*

• Повар, афіцыянт для розных мерапрыемстваў. Т. (8-029) 6130457.*

• Праектнай арганізацыі патрабуюцца канструктары, В і К, генпланіст. Т. (8-033) 6322767.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Кладка печаў, камінаў. Дэмантаж. Фундамент. Т. (8-029) 3279874.

• Шукаю работу з працаўладкаваннем. Інжынер-механік швейнага, вязальнага і ткацкага абсталявання. Т.(8-029) 7612559.*

• Шукаю работу па замене ў старых драўляных дамах ніжніх вянцоў. Рамонт фундаментаў, дахаў. Т.(8-029) 8745410.*

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

**Астравец** 01591 • **Ашмяны** 01593
**Валожын** 01772 • **Вілейка** 01771
**Маладзечна** 0176
**Мядзел** 01797 • **Смаргонь** 01592

# Дзяржкантроль праверыў цэны ў аптэках

**Міжведамасная працоўная група пад эгідай Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці праверыла 241 аптэку 68 суб'ектаў прыватнай формы, а таксама аптэчную сетку РУП «Мінская фармацыя».**



Фота lentachel.ru.

Цэны на некаторыя лекі падымалі незаконна.

Па выніках сакавіка рост цэн з перавышэннем дапушчальнага выявілі ў 18 аптэках сямі рознічных сетак на чатыры-сем прэпаратаў з пераліку сацыяльна значных тавараў першай неабходнасці.

Нагадаем, у адпаведнасці з прынятай 23 лютага пастановай Савета Міністраў «Аб часовых мерах па стабілізацыі цэн на сацыяльна значныя тавары першай неабходнасці» ад 1 сакавіка змяненне цэн на сацыяльна значныя тавары першай неабходнасці не можа перавышаць 0,2 працэнта ў месяц да цаны, якая была на апошні дзень папярэдняга месяца.

Прычым у асобных з іх дадзены рост напрамую звязаны з павелічэннем цаны пастаўшчыком – ТАА «ВітФармМаркет». Напрыклад, адпускныя цэны ў сакавіку ў параўнанні з лютым на айчынныя прэпараты (сонекс, анальгін, парацэтамол і іншыя) узраслі на 1, 7 і 9 працэнтаў замест дапушчальных 0,2.

Як вынік, у ТАА «Фармаркет-плюс», якое набывала названыя лекі ў ТАА «ВітФармМаркет», цана ў сакавіку на асобныя лекі павялічылася да 16 працэнтаў.

Але ёсць і такія аптэкі, якія самастойна фарміравалі завышаную цану. Так, у чатырох з сямі аптэк ТАА «Іскамед» у сакавіку рост цэн на шэсць лекавых прэпаратаў склаў ад 1,1 да 13,4 працэнта. Павялічылі рознічныя цэны ва ўнітарным прадпрыемстве «Навамедыка» і таварыстве «Афіцына» на азітраміцын адпаведна на 11 і 28 працэнтаў, у арганізацыі «Фарма-прадукт» – на аспікард на 10,8, на дыклафенак – на 9,7 і на парацэтамол – на 60 працэнтаў. У ТДА «Белтрэйдсэрвіс» цану на бісапралол паднялі на 12 працэнтаў, на клапідагрэл – на 43.

> **По выніках праверкі ўсе названыя парушальнікі прывялі цэны ў адпаведнасць з нормамі заканадаўства.**

Акрамя таго, заўважылі дэфіцыт асобных лекаў у аптэках ТДА «Квэрк» Вілейскага раёна (амаксіцылін, атарвастацін), ТАА «Мая аптэка» Валожынскага раёна (ксілін, лазартан-НАН, моксадзін, рываксан, сульпірыд), у некаторых аптэках за межамі рэгіёна – Крупскім і Салігорскім раёнах.

У дачыненні да тых аптэк, дзе адсутнасць лекаў заўважалі неаднойчы, Камітэт накіраваў прапановы ў Дзяржфармнагляд для разгляду пытання аб прыпыненні іх дзейнасці. Кантроль працягваецца.

**Упраўленне кантролю бюджэтна-фінансавай сферы Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.**

## Чаму важна правяраць сродкі вымярэння

**Вымярэнні, а значыць, і сродкі вымярэння, суправаджаюць кожнага з нас.**

Ад прымянення спраўных і паверaных прылад для вымярэння залежыць бяспека і якасць прадуктаў і прамысловых тавараў, якія выпускаюць прадпрыемствы, а таксама выкананне ўмоў захоўвання і правільнасць водпуску тавараў па вазе ў крамах і на рынках.

Сума, якую мы аплачваем за камунальныя паслугі, залежыць ад дакладнасці паказанняў лічыльнікаў вады, цяпла, газу, электрычнасці. Правільнасць прызначанага доктарам лячэння таксама шмат у чым залежыць ад спраўнасці вымяральнікаў ціску, глюкометраў, кардыёграфаў.

Стан і правільнасць прымянення сродкаў вымярэння кантралююць падчас праверак выканання патрабаванняў заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб забеспячэнні адзінства вымярэння.

Аддзел дзяржаўнага нагляду (Маладзечна) інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску за першы квартал года праверыў 19 суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці. Устанавілі, што ва ўсіх з 19 карыстаюцца не паверанымі сродкамі вымярэння.

На 14 чалавек, якія дапусцілі парушэнні патрабаванняў заканадаўства, склалі пратаколы аб адміністрацыйнай адказнасці. У далейшым кантрольна-наглядныя мерапрыемствы працягнуць.

**Дзмітры БАНЦАРЭВІЧ, галоўны дзяржінспектар аддзела дзяржаўнага нагляду Маладзечна.**

# Мітынг-рэквіем, адкрыццё імянных домікаў і свечкі памяці

## Як у дзіцячым цэнтры «Надзея» адзначылі 35-годдзе чарнобыльскай трагедыі

**Дамы з імёнамі «Клаўс», «Штутгарт» і «Фрыдрыхсдорф» урачыста адчынілі 26 красавіка на базе адпачынку «Вілія» – структурным падраздзяленні дзіцячага рэабілітацыйнага цэнтра «Надзея». Пра тое, як у цэнтры адзначылі 35 гадавіну Чарнобыля і чаму тут з'явіліся дамы з імёнамі, – у нашым матэрыяле.**



Падчас мітынгу-рэквіема.

ВІЛЕЙКА

### Лічбы Чарнобыля на Вілейшчыне: 67 ліквідатараў, 8 забруджаных вёсак

Дзень 26 красавіка для работнікаў і адпачывальнікаў «Надзеі» пачаўся з мітынгу-рэквіема, які сумесна падрыхтавалі супрацоўнікі і навучэнцы.

Вядучыя звярнулі ўвагу, што 35 год таму чарнобыльская бяда не абышла Вілейскі край. Жыхары Вілейшчыны ўдзельнічалі ў ліквідацыі наступстваў. І сёння ў раёне жыве 67 удзельнікаў тых падзей. Тэму працягнула старшыня Вілейскага раённага Савета дэпутатаў **Алена Чабатар**:

> **– 26 красавіка 1986 года – адна з самых трагічных дат у гісторыі Беларусі. Яшчэ і сёння восем населеных пунктаў Вілейшчыны застаюцца забруджанымі. Трэба памятаць пра гэту трагедыю і даносіць успаміны да нашай моладзі.**

А старшыня грамадскай арганізацыі «Жывое партнёрства» **Наталля Кахноўская**, якая выступала ад імя заснавальнікаў праекта «Надзея», адзначыла, што ў цэнтры, створаным у 1994 годзе для дзяцей, пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы, увасобіліся мары грамадскіх арганізацый, замежных партнёраў і дзяржавы.

На думку спадарыні Наталлі, той красавіцкі дзень падзяліў гісторыю Беларусі на да і пасля. А наступствы трагедыі будуць адчувацца яшчэ доўга. Для бібліятэкі «Надзеі» госця пакінула ў падарунак кнігі Міколы Мятліцкага «Хойніцкі сшытак» і Леаніда Левановіча «Вяртанне ў радыяцыю».

### Каронавірус – як новы выклік

Згадваючы самотную дату, дырэктар цэнтра **Вячаслаў Макушынскі** звярнуў увагу на тое, што ў 2020 годзе наша краіна адчула на сабе новы выклік – каронавірус. Ад сакавіка мінулага года ў цэнтры не было ніводнага замежнага партнёра. Такая сітуацыя адбылася ўпершыню за ўсе гады існавання «Надзеі». Але з даўнімі японскімі і нямецкімі партнёрамі цэнтр працягвае кантактаваць дыстанцыйна. Доказ гэтаму – вітальныя лісты, дасланыя да 26 красавіка ў «Надзею» з Германіі і Японіі.

### Пачатак мая 1986 года: Хадзілі на дэманстрацыю, садзілі бульбу

Ад 1994 года цэнтр штогод прымае на аздараўленне дзяцей з забруджаных раёнаў. Іх суправаджаюць педагогі, якія добра памятаюць падзеі 26 красавіка 35-гадовай даўніны. Сярод іх настаўніца з Гомеля **Святлана Чарняк**:

– Чарнобыльская тэма асабліва блізкая мне і маёй сям'і. Я нарадзілася ў маленькім палескім гарадку Хойнікі. Раней пра гэты горад мала хто ведаў. А цяпер з-за падзей 1986 года ведаюць многія. Я памятаю тыя дні. Было вельмі спакотнае надвор'е. Я была студэнткай універсітэта ў Гомелі. Перад майскімі святамі патэлефанавала бацькам у Хойнікі з тэлефона-аўтамата. А мама сказала: «Можа, ты не прыязджай. Кажуць, нейкая аварыя здарылася. Але не ведаем, якая».

Інфармацыі пра тое, што адбылося, нідзе не было. Таму мы, чацвёра дзяцей, па традыцыі сабраліся ў бацькоў, у Хойніках. Хадзілі на дэманстрацыю, садзілі бульбу. А ўжо пасля майскіх святаў даведаліся пра маштабы аварыі. Але бацькі па-ранейшаму жылі ў Хойніках і мы мусілі ездзіць туды. Памятаю, як нельга было збіраць ягады і грыбы ў лесе, забаранялі есці садавіну і гародніну з падворкаў. Мама і сястра і сёння жывуць у Хойніках.



Верш Анатоля Зэкава пра 26 красавіка 1986 года чытае перакладчыца «Надзеі» Вольга Габруковіч.




Гучалі песні і вершы ад дзяцей, якія адпачываюць у цэнтры.

### Адкуль у «Надзеі» домікі з імёнамі

У рамках мерапрыемстваў да ўгодкаў Чарнобыльскай трагедыі 26 красавіка адчынілі тры імянныя домікі для адпачывальнікаў. А пачыналася ўсё так.

У 2016 годзе сваю базу адпачынку «Вілія» Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт перадаў «Надзеі». Да гэтага некалькі год база не функцыянавала, шматлікім будынкам быў патрэбны рамонт, які і зрабіла «Надзея». Не адпавядалі сучасным запатрабаванням шчытавыя домікі-шатры, пабудаваныя яшчэ ў 1975 годзе.



Так выглядаюць імянныя домікі.

І вось у 2019-м прадстаўнікі нямецкага аб'яднання «Менерарбайт Мюстэрланд» прафінансавалі і пабудавалі першы новы дом для адпачывальнікаў. Дом назвалі «Мюстэрланд», пра што сведчыць адпаведная шыльда.

Гэты будынак стаў пачаткам акцыі «Імянны дом». Сутнасць акцыі ў наступным. Партнёрам, якія прафінансуюць будаўніцтва зборна-шчытавога дома-шатра, дадуць магчымасць даць любое імя гэтаму дому. Тым самым пакінуць след у развіцці базы адпачынку і палепшыць умовы жыцця дзяцей, якія тут адпачываюць і папраўляюць здароўе.

Такім чынам, у рамках акцыі на базе адпачынку – ужо чатыры імянныя домікі, кожны з якіх каштуе пяць тысяч еўра. 26 красавіка на тры з іх урачыста павесілі шыльды з імёнамі і інфармацыяй пра партнёраў.

… А вечарам у цэнтры зладзілі яшчэ адну акцыю – «Свечка памяці». Традыцыйна работнікі цэнтра і адпачывальнікі запалілі свечкі ў памяць пра ахвяр трагедыі.



Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● ПАДЗЕЯ ТЭЛЕТЫДНЯ



Фота AMPAS/ABC.

Хлоя Чжаа стала лепшым рэжысёрам года. Яна першая азіятка, якая перамагла ў кінапрэміі ў дадзенай намінацыі.

# Усе пераможцы «Оскара»-2021

**26 красавіка прайшла 93-я цырымонія ўзнагароджання кінапрэміі «Оскар». «Рэгіянальная газета» расказвае вынікі галоўнай кінематаграфічнай узнагароды свету.**

### Лепшы фільм – «Зямля качэўнікаў»

Меланхалічны фільм «Зямля качэўнікаў» стаў галоўным трыумфатарам «Оскара». Ён атрымаў тры статуэткі – за лепшую рэжысуру, за лепшую жаночую ролю і як лепшы фільм.

Кітаянка **Хлоя Чжаа** стала другой жанчынай у гісторыі, якая атрымала рэжысёрскі «Оскар». Першай была стваральніца «Уладара буры» **Кэтрын Бігелоў**. **Фрэнсіс МакДорманд**, якая выканала галоўную жаночую ролю ў «Зямлі качэўнікаў», атрымала ўзнагароду не толькі як актрыса, але і як прадзюсар. Дарэчы, у МакДорманд ужо ёсць прэміі Кінаакадэміі за ролі ў «Трох білбордах на мяжы Эбінга, Місуры» і «Фарго».



### Пажылы пераможца і першыя «Оскары»

Лепшым акцёрам стаў **Энтані Хопкінс**. Ён атрымаў узнагароду за ролю пажылога мужчыны з дэменцыяй у фільме «Бацька». Хопкінс стаў самым пажылым чалавекам (83 гады), які атрымаў «Оскар». Раней, у 1992 годзе, акцёр атрымаў свой першы «Оскар» за ролю Ганібала Лектара ў фільме «Маўчанне ягнят».

**Юн Ё-Джон** стала першай карэйскай актрысай, якая атрымала «Оскар» (лепшая жаночая роля другога плана). Яна выканала ролю бабулі ў паўднёва-карэйскай стужцы «Мінары». За гэту ролю яна ўжо атрымала прэмію «БАФТА».

**Дэніэл Калуя** атрымаў свой першы «Оскар» за ролю лідара партыі «Чорныя пантэры» ў фільме «Іуда і чорны месія». Акрамя «Оскара» Калуя атрымаў «Залаты глобус» і ўзнагароду Брытанскай акадэміі «БАФТА» – абодва прызы ў катэгорыі «Лепшы акцёр другога плана».

### Іншыя намінанты і лаўрэаты

Фільмы «Бацька», «Іуда і чорны месія», «Манк», «Душа», «Гук металу», «Ма Рэйні: Маці блюзу» атрымалі па два «Оскары» кожны. Зусім без узнагарод засталіся фільмы «Суд над чыкагскай сямёркай», «Борат 2» і «Навіны з усіх канцоў свету». Глядацкія хіты «Довад» і «Яшчэ па адной» перамаглі ў намінацыях «Лепшыя візуальныя эфекты» і «Лепшы замежны фільм» адпаведна.

Фільм «Дзяўчына, што падае надзеі» быў адзначаны за лепшы арыгінальны сцэнарый. Яго адзначылі спачатку на ўзнагароджанні Брытанскай акадэміі, а сусветная прэм'ера адбылася на пачатку мінулага года на фестывалі «Сандэнс». Галоўную ролю ў стужцы выканала **Кэры Маліган**.

З 36 намінацый Netflix перамогай завяршыліся толькі сем: «Манк» (работы аператара і мастака-пастаноўшчыка), «Ма Рэйні: Маці блюзу» (грым і прычоскі, касцюмы), «Калі нешта здарыцца, я люблю вас» (лепшая анімацыйная кароткаметражка), «Два далёкія незнаёмцы» (лепшая гульнявая кароткаметражка) і «Мой настаўнік-васьміног» (лепшы дакументальны фільм).

**Настасся УТКІНА.**

## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 3 МАЯ

**7.00, 15.50, 18.40, 21.00, 0.45** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль».
**7.30, 15.55** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** Д/ф «ЗЕЛЬДОВИЧ. ТЕОРИЯ ГОРЕНИЯ И ВЗРЫВА».
**10.30** Х/ф **«ДЖОН УИК».**
**12.30** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.10** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**16.00, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**17.10** Т/с **«ИСТОРИЧЕСКИЙ ДЕТЕКТИВ». «ТАЙНА МУЛЕН РУЖ».**
**18.45** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.45** Т/с **«ЭМИЛИ В ПАРИЖЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ОНО».**
**23.15** Х/ф **«ОБОРОТЕНЬ».**

### ВТОРНИК, 4 МАЯ

**7.00, 18.45, 21.00, 0.45** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль «.
**7.30, 15.30** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** «Документальный экран».
**10.30** Х/ф **«АКСЕЛЬ».**
**12.10** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**13.50** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.25** «Погода» +»Эрана».
**15.35** «Мульт-парад». «Хрусталик и пингвин».
**16.50, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**16.55** «Дети о еде».
**17.15** Т/с **«ИСТОРИЧЕСКИЙ ДЕТЕКТИВ». «ТАЙНА ЭЙФЕЛЕВОЙ БАШНИ».**
**18.50** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.50** Т/с **«ЭМИЛИ В ПАРИЖЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЖИЗНЬ ДРУГИХ».**
**23.20** Х/ф **«ХОЛОДНАЯ ВОЙНА».**

### СРЕДА, 5 МАЯ

**7.00, 16.00, 18.35, 21.00, 0.45** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль».
**7.30** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** «Дети о еде».
**10.05** «Документальный экран».
**10.30** Х/ф **«ЖИЗНЬ ДРУГИХ».**
**12.45** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.20** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**16.05, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**16.10** «Мульт-парад».
**17.05** Т/с **«ИСТОРИЧЕСКИЙ ДЕТЕКТИВ». «ТАЙНА ГРАНД-ОПЕРА».**
**18.40** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.50** Т/с **«ЭМИЛИ В ПАРИЖЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ФАТАЛЬНЫЕ ИЛЛЮЗИИ».**
**22.50** Х/ф **«СПУТНИК».**

### ЧЕТВЕРГ, 6 МАЯ

**7.00, 15.40, 18.25, 21.05** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль».
**7.30, 15.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** «Документальный экран».
**10.30** Х/ф **«ПЕЧАЛЬНЫЕ ИЛЛЮЗИИ».**
**12.20** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.50** «Мульт-парад».
**16.55** Т/с **«ИСТОРИЧЕСКИЙ ДЕТЕКТИВ». «ТАЙНА ВАНДОМСКОЙ ПЛОЩАДИ».**
**18.35** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.35** «Фешн is my профешн».
**19.50** Т/с **«ЭМИЛИ В ПАРИЖЕ».**
**20.50** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«БЕГУЩИЙ В ЛАБИРИНТЕ».**
**1.10** «Погода».

### ПЯТНИЦА, 7 МАЯ

**7.00, 15.20, 19.40, 21.00, 1.10** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Щенячий патруль».
**7.30** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.15** Т/с **«КОМИССАР РЕКС».**
**9.45** «Документальный экран».
**10.15** Х/ф **«ДЕНЬ РАДИО».**
**12.00** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**13.40** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.25** «Мульт-парад».
**16.45, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**16.50** «Готовь как шеф».
**17.05** Т/с **«ИСТОРИЧЕСКИЙ ДЕТЕКТИВ». «ТАЙНА ЛУВРА».**
**18.35** Т/с **«РАДИ ВСЕГО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА».**
**19.45** Т/с **«ЭМИЛИ В ПАРИЖЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Герои комиксов на экране».

### СУББОТА, 8 МАЯ

**7.00, 16.30, 19.10, 21.20, 1.50** Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «ИСТОРИЯ ДВУХ КОШЕЧЕК».
**8.30** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ РАВВИНА ЯКОБА».**
**10.00** «Дети о еде».
**10.20** Программа для женщин Клуб «Баланс».
**10.30** Х/ф **«ПАЛАЧ».**
**16.45** «Смотрим всей семьей». Сериал «Звездные войны». «Пробуждая силы».
**19.05** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**19.15** Х/ф **«ЮМОРИСТЫ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«В ЛАБИРИНТЕ. ЛЕКАРСТВО ОТ СТРАХА».**
**23.45** Х/ф **«БЕССМЕРТНАЯ ГВАРДИЯ».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 9 МАЯ

**7.00, 14.05, 20.00, 21.00, 0.30** Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Лис и пес».
**8.25** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙТЕ, Я ВАША ТЕТЯ».**
**10.05, 19.10, 20.45** Т/с **«ХОЧУ В ПАРИЖ».**
**10.10** «Готовь как шеф».
**10.25** Программа для женщин Клуб «Баланс».
**10.35** «Удачные советы».
**10.45** Х/ф **«ПАЛАЧ».**
**13.20** Д/ф «КИРИЛЛ ОРЛОВСКИЙ».
**14.10** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ». «ИЗГОЙ».**
**16.20** Х/ф **«МИСС МАРПЛ. ТЕЛО В БИБЛИОТЕКЕ».**
**19.15** «Суперлото».
**20.05** Т/с **«ПРОЕКТ «СИНЯЯ КНИГА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Т/с **«ЗАБЫТЫЙ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 3 МАЯ

**6.30** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**8.30** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**10.00** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**13.25** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ».**
**15.05** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ».**
**16.55** Свет души.
**17.05** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Мастерство и вдохновение.
**20.30** Х/ф **«ПРИЛИЧНЫЕ ЛЮДИ!».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 4 МАЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мнения и факты.
**8.30** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**10.00** Х/ф **«КЛИК. С ПУЛЬТОМ ПО ЖИЗНИ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ».**
**13.50** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ. НОВЫЙ ПОВОРОТ».**
**15.05** Х/ф **«ИМЯ».**
**17.05** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**19.15** Единство – в деле.
**20.30** Х/ф **«НЕРЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ!».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 5 МАЯ

**6.30, 7.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.25** Реликвия.
**8.30** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**10.00** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**
**13.40** Мультфильмы «САДКО».
**15.05** Х/ф **«Я – МИЛЛИАРДЕР».**
**17.05** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ».**
**19.15** Мастерство и вдохновение.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 6 МАЯ

**6.30, 7.35** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мнения и факты.
**8.30** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**10.35** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«СЕМЕЙКА АДДАМС».**
**13.30** Х/ф **«АГЕНТ ДЖОННИ ИНГЛИШ 3.0».**
**15.05** Х/ф **«ПУТЕШЕСТВИЕ ГЕКТОРА В ПОИСКАХ СЧАСТЬЯ».**
**17.05** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**19.20** Фронтовое письмо.
**20.29** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 7 МАЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30, 19.25** Фронтовое письмо.
**8.30** Мультфильмы «ТАЙНАЯ ЖИЗНЬ ДОМАШНИХ ЖИВОТНЫХ».
**10.00** Х/ф **«ДЖУМАНДЖИ. ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**13.20** Мультфильмы «КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».
**15.05** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ».**
**17.05** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**18.40, 22.20** Мажорный лад.
**20.20** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**

### СУББОТА, 8 МАЯ

**6.30, 8.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мастерство и вдохновение.
**8.25, 19.30** Мнения и факты.
**9.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ 2».**
**11.00** Х/ф **«ХОЛОП».**
**12.45** Фронтовое письмо.
**13.00** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**14.50** Шанхайский полдень.
**16.40** Х/ф **«БОЛЬШЕ, ЧЕМ ДРУГ».**
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 9 МАЯ

**6.30** Х/ф **«ВСЕГДА ГОВОРИ «ДА».**
**8.00** Х/ф **«ПЕСНИ ПОБЕДЫ».**
**10.25** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**12.30** Х/ф **«2+1».**
**14.35** Фронтовое письмо.
**14.50** Песни победы.
**16.50** Х/ф **«МОЙ ШПИОН».**
**18.30** Х/ф **«ИРОНИЯ ЛЮБВИ».**
**19.55** Х/ф **«СУПРУГИ МОРГАН В БЕГАХ».**
**21.40** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**

## Беларусь 1

**6.25** Военно-шпионский детектив «СМЕРШ. Умирать приказа не было».
**8.00** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 18.20** «День Победы».
**9.30** «Арсенал». Программа об армии.
**10.00** «Вопрос номер один».
**10.30** «Один день».
**11.00** Возложение цветов и венков к монументу Победы в рамках патриотической акции «Беларусь помнит!».
**11.30** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**
**12.30** Х/ф **«ДНЕПРОВСКИЙ РУБЕЖ».**
**14.40, 16.00** «Незабытый подвиг». Хроникально-документальный телефильм АТН.
**16.20** Концерт «За жизнь!».
**17.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**18.00** Торжественное мероприятие, посвященное Дню Государственного Герба и Государственного Флага Республики Беларусь.
**19.00, 23.00** Х/ф **«НА ПОРОГЕ ЛЮБВИ».**
**20.00** «Главный эфир. День Победы».
**21.30** Гала-концерт «Подвиг народа бессмертен» в рамках телепроекта «Площадь Победы».

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся!». Утреннее шоу.
**8.00, 21.25** Телебарометр.
**8.10** Х/ф **«МЫ ИЗ БУДУЩЕГО».**
**10.10** «ПИН_КОД». Интерактивный молодежный проект.
**10.55** Х/ф **«СНАЙПЕР. ОФИЦЕР СМЕРШ».**
**14.20** Т/с **«ПРИВЕТ ОТ «КАТЮШИ».**
**17.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**18.00** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ТАЙФУН». ЗАДАНИЕ ОСОБОЙ ВАЖНОСТИ».**
**21.20** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**22.00** Х/ф **«СТАЛИНГРАД».**

## Беларусь 3

**7.20** Навіны культуры.
**7.35** «Вадзіцель аўтобуса». Мастацкі фільм [СТ].
**9.45** Фестываль армейскай песні «Звязда».
**11.25** «У бой ідуць адны «старыя». Мастацкі фільм [СТ].
**12.55** Урачысты сход і святочны канцэрт «Дзякуй за жыццё!».
**14.25** «Дняпроўскі рубеж «. Мастацкі фільм [СТ].
**16.35** «Песні вайны». Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава.
**17.55** «Хвіліна маўчання». Светлай памяці загінуўшых у барацьбе супраць фашызму.
**18.00** «Штурман журналісткі. Да 100-годдзя Рыгора Булацкага». Дакументальны фільм.
**18.55** «У жніўні 44-га…» Мастацкі фільм [СТ].
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Дзяржаўная граніца». Фільм шосты «За парогам Перамогі» [СТ].
**23.15** «Час, наперад!» Канцэрт Нацыянальнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава.

## ОНТ

**7.00** ОНТ представляет: «100 имён Беларуси»: Генерал Корж.
**8.00** ОНТ представляет: «Наше утро».
**10.00** ОНТ представляет: «Первый день мира».
**10.30, 11.30** «Песни Великой Победы».
**11.00** Возложение цветов и венков к монументу Победы в рамках патриотической акции «Беларусь помнит!».
**12.00, 16.00, 20.00** Наши новости.
**12.25** «Офицеры». Концерт в Кремле.
**13.50** Легендарное кино в цвете. «Офицеры».
**15.30** «Диверсант. Крым».
**16.35, 18.20** «Диверсант. Крым» Продолжение.
**17.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**18.00** Торжественное мероприятие, посвященное Дню Государственного Герба и Государственного Флага Республики Беларусь.
**21.05** Х/ф **«ПОДОЛЬСКИЕ КУРСАНТЫ».**
**23.25** Легендарное кино в цвете. «В бой идут одни «старики».

## СТВ

**7.05** Д/ф «К ПОБЕДЕ: СЕМЬ ФУТОВ ПОД КИЛЕМ».
**7.55** «Тайны Беларуси».
**8.55** Д/ф «ОТЕЦ СТАЛИНГРАДА: МОГИЛА ДЛЯ БЕССМЕРТНЫХ».
**10.00** «Большой город».
**10.30, 13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**11.00** Возложение цветов и венков к монументу Победы в рамках патриотической акции «Беларусь помнит!».
**11.30, 13.55, 16.55** Т/с **«КАТЯ».**
**17.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**18.00** Торжественное мероприятие, посвященное Дню Государственного Герба и Государственного Флага Республики Беларусь.
**18.20** СТВ представляет: концерт, посвященный Дню Победы «Рожденные войной».
**19.30** «Неделя».
**21.20** Х/ф **«ВАМ – ЗАДАНИЕ».**
**22.45** Документальный спецпроект.
**0.15** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«ЛЕТЯТ ЖУРАВЛИ».**
**6.30** Х/ф **«ТОРПЕДОНОСЦЫ».**
**8.05, 11.15** Х/ф **«ФРОНТ БЕЗ ФЛАНГОВ».**
**9.50, 16.00, 21.55** Новости.
**10.00** Парад Победы на Красной площади.
**12.25** Х/ф **«ФРОНТ ЗА ЛИНИЕЙ ФРОНТА».**
**15.25, 16.15** Х/ф **«ФРОНТ В ТЫЛУ ВРАГА».**
**18.35, 19.05, 22.10** Т/с **«ЩИТ И МЕЧ».**
**18.55** Светлой памяти павших в борьбе против фашизма. Минута молчания.
**22.00** Праздничный салют.
**0.55** Т/с **«СЕКРЕТНЫЙ ФАРВАТЕР».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.10** «Тело человека».
**6.45** Беларусы.
**7.20** «50 рецептов первого».
**8.00, 19.00** «Сегодня».
**8.20** «Незабытый подвиг». Хроникально-документальный телефильм.
**8.35** «Города Беларуси».
**9.20** «Я хочу это увидеть!».
**10.00** Москва. Красная площадь. Парад, посвященный Дню Победы.
**11.00** Возложение цветов и венков к монументу Победы в рамках патриотической акции «Беларусь помнит!».
**11.30** Х/ф **«В АВГУСТЕ 44-ГО...».**
**13.30** «Основано на реальных событиях».
**14.50** За секунду до подвига.
**15.30, 18.20, 19.45** Х/ф **«АЛЕША».**
**17.55** Минута молчания. Светлой памяти павших в борьбе против фашизма.
**18.00** Торжественное мероприятие, посвященное Дню Государственного Герба и Государственного Флага Республики Беларусь.
**20.50** Андрей Смоляков в военном фильме «Топор».
**22.30** Х/ф **«ТОПОР 1943».**
**0.35** Д/ф «ВЕЧНАЯ ОТЕЧЕСТВЕННАЯ».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Тайны Беларуси».
**8.00** «ДЕНЬ ПОБЕДЫ». Праздничный канал.
**10.00** МОСКВА. КРАСНАЯ ПЛОЩАДЬ. ПАРАД, ПОСВЯЩЕННЫЙ ДНЮ ПОБЕДЫ.
**11.00** «ДЕНЬ ПОБЕДЫ». Праздничный канал. Продолжение.
**12.30** Х/ф **«СОЛДАТИК».**
**13.50, 16.50, 19.50, 23.00** Новости – Беларусь.
**14.00, 20.00** ВЕСТИ.
**14.20, 17.00** Х/ф **«НИ ШАГУ НАЗАД!».**
**18.55** Светлой памяти павших в борьбе против фашизма. Минута молчания.
**19.00, 22.00** Большой праздничный концерт, посвящённый Дню Победы.
**21.15** «В людях».
**23.10** Х/ф **«Т-34».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.00** Хоббит: Битва пяти воинств. **8.10** Малышка на миллион. **10.30** Любимцы Америки. **12.15** Гордость и предубеждение. **14.25** Джейн Эйр. **16.30** Боевой конь. **19.00** Война токов. **20.45** Пианист. **23.20** Чтец. **1.30** Никогда не сдавайся. **3.20** Мирный воин.

### TV1000 ACTION

**5.40** Лукас. **7.00** Уличный боец. **8.40** Погребённый заживо. **10.15** Терминатор 2: Судный день. **12.55** Терминатор 3: Восстание машин. **14.50** Терминатор: Да придёт спаситель. **16.40** Джек Ричер. **19.00** Джек Ричер 2: Никогда не возвращайся. **21.00** Джон Уик 2. **23.05** Джон Уик 3. **1.10** Проповедник с пулемётом. **3.15** Противостояние.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Кукушка. **7.30, 4.00** Спасибо деду за победу. **9.10** Танки. **10.45** Рубеж. **12.30, 2.15** Единичка. **14.25** Спасти Ленинград. **16.05** 28 панфиловцев. **18.05** Ржев. **20.05** Коридор бессмертия. **22.35** Собибор. **0.35** Пять невест.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.15** «Рисуем сказки». **8.30** «Новый день». **9.00, 9.30, 10.00, 10.30, 11.00, 11.30, 12.00, 12.30, 13.00, 13.30, 14.00, 14.30, 15.00, 15.30, 16.00, 16.30, 17.00, 17.30, 18.00, 18.30, 19.00, 19.30, 20.00, 20.30, 21.00, 21.30, 22.00, 22.30** «Слепая». **18.55** «Светлой памяти павших в борьбе против фашизма. Минута молчания». **23.00** Х/ф **«КУРЬЕР». 1.00** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ 3». 2.30, 3.15, 4.00, 4.45, 5.30** Т/с **«БАШНЯ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00** Х/ф **«В СТОРОНУ ОТ ВОЙНЫ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Х/ф **«РАЗЖАЛОВАННЫЙ». 12.00, 20.00, 4.00** «Любовь за любовь». **13.00, 21.00, 5.00** «Апостол». **14.00, 22.00, 6.00** «Плацента». **15.00, 23.00, 7.00** Предлагаемые обстоятельства. Богатый наследник. **0.00, 1.00** «Татьянин день». **2.00, 3.00** «Неравный брак».

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.15** Х/ф **«КАК ОТМЫТЬ МИЛЛИОН». 3.55** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЙ БЁРТ УАНДЕРСТОУН». 5.40** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ». 7.50** Х/ф **«2+1». 10.00** Х/ф **«ХОДЯТ СЛУХИ». 11.50** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ». 13.35** Х/ф **«КАНИКУЛЫ СТРОГОГО РЕЖИМА». 15.45** Х/ф **«МАРТОВСКИЕ КОТЫ». 17.35** Х/ф **«ПАПЕ СНОВА 17». 19.30** Х/ф **«МАСКА». 21.20** Х/ф **«ЧЕТЫРЕ КОМНАТЫ». 23.10** Х/ф **«БАНДИТКИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.50, 2.00, 3.40, 4.50** Т/с **«МАММОН». 6.00, 7.00, 7.55, 8.50, 9.45** Т/с **«ОТЛИЧНИЦА». 10.40, 11.35, 12.30, 13.20, 14.15, 15.10, 16.00** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 16.50, 17.50, 18.45, 19.40** Т/с **«ЯЛТА-45». 20.35, 21.40, 22.40, 23.45** Т/с **«БЕЗОПАСНОСТЬ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.00** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **10.00** Х/ф **«ЭЙС ВЕНТУРА 2: КОГДА ЗОВЁТ ПРИРОДА». 11.40, 12.45, 14.15, 15.45, 17.15, 18.45** Т/с **«ГОСТИ ИЗ ПРОШЛОГО». 20.20** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ». 22.10** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ. НАРОДНЫЕ МСТИТЕЛИ». 0.00** Х/ф **«ИГРА В ИМИТАЦИЮ». 2.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **3.55** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Волейбол. Квалификация к ЧЕ-2021. Мужчины. Беларусь – Венгрия. **9.00** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити – Челси. **11.00** Художественная гимнастика. Кубок мира. Баку. Финалы. **15.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **16.05** Питстоп. **16.40** Спорт-центр. **16.50** Волейбол. Квалификация к ЧЕ-2021. Мужчины. Норвегия – Беларусь. **18.30** Футбол. Чемпионат Англии. Вест Хэм – Эвертон. В перерыве Спорт-центр. **20.20** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 8-й тур. Шахтер (Солигорск) – БАТЭ (Борисов). В перерыве Спорт-центр. **22.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 8-й тур. Обзор. **23.05** Итоги недели. **23.50** Футбол. На пути к ЕВРО-2020.

### EUROSPORT

**0.00, 4.00, 8.00, 10.30, 21.00** Кёрлинг. Чемпионат мира. Калгари. Женщины. 1/2 финала. **3.00, 6.00, 9.30, 12.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Первый этап. **11.30** Велоспорт. «Тур Алгарве». Мужчины. Четвертый этап. **13.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Второй этап. **18.15** Велоспорт. «Тур Алгарве». Мужчины. Пятый этап. **20.00** Велоспорт. Четыре дня Дюнкерка. Мужчины. Шестой этап. **22.00** Кёрлинг. Чемпионат мира. Калгари. Женщины. Финал.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 1.15** Мото тест-драйв. **6.20** За рулем каждый день. **6.45, 7.35, 23.20** Аварийная ситуация. **7.00, 5.10** Наезд! **7.10** Автовинтаж. **7.50, 10.40** Автолайф. **8.10** Резьба по стали. **8.40** Испытание на прочность. **9.20** Все включено. **9.55, 19.20, 22.35** Обновление. **10.05** Комплектация. **11.15, 22.50, 3.05** Возвращение легенды. **11.45, 12.55, 14.10, 15.20, 16.30, 17.40, 18.50** По дорогам Второй мировой. **12.20, 13.30, 14.40, 15.50, 17.00, 18.15** Назад в СССР. **12.40, 13.50, 14.55, 16.10, 17.20, 18.30** Мир танков. **19.30** Тебе водить! Тебе лечить! **20.00** 112 Пожарные в действии. **21.00, 4.30** Эконом-тест. **21.20, 4.45** Кругосветка по бездорожью. **21.50, 5.20** Советы юриста. **23.40, 3.35** АВТОбиография. **0.35** Тест с дядей Ваней. **1.30** Тест на «Драйве». **2.35** Сити-тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35, 9.25** Речные чудовища. **10.20** Чудовищный карп. **11.10** Снос в Австралии. **11.55, 22.55** Бирюзовая лихорадка. **12.45, 13.30, 14.20, 15.05, 15.50, 16.40, 17.25, 18.15, 19.00, 19.45, 20.35, 21.20, 22.05** Австралийские золотоискатели. **23.40, 0.30, 1.15, 2.05, 2.50, 3.40, 4.25** Ледовые викинги. **5.15** Рыбалка со звездами.

### HISTORY

**6.15, 7.00, 7.45, 4.10, 4.55** Запретная история. **8.30** Расшифровка тайн. **9.15, 10.00, 10.50, 1.00, 1.45** Тайны музеев. **11.35, 12.25** 5000 лет истории Нила. **13.15, 14.00, 23.20, 0.10** Лондон: 2000 лет истории. **14.50, 15.40** Очень странные экспонаты. **16.30** Саккара: тайные иероглифы пирамид. **17.25** Новые тайны терракотовых воинов. **18.20** Падение империи. **19.15** Последний поход викингов. **20.10** Восход Османской империи. **21.00, 21.45** По следам вождя гуннов Аттилы. **22.30** Ганнибал: новые данные. **2.30, 3.20** Музейные тайны. **5.30** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.10** Лучшие друзья собаки. **6.35** Высокие и крошечные: крайности природы. **7.25, 8.20, 9.10** Жилища животных: прирожденные инженеры. **10.05** Расцвет млекопитающих. **11.00** Нераскрытое дело динозавра. **11.45** Тайны великанов Ледникового периода. **12.40, 13.35, 14.30** Гениальные морские охотники. **15.25, 16.20** Дикая Новая Зеландия. **17.15** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **18.05** Дикий штат Карнатака, Индия. **19.00** Дикий Токио. **20.00, 20.50, 21.45, 22.35, 23.25** Речные чудовища. **0.20** Невероятные встречи с животными. **1.10** Мутации погоды. **1.55** Выживание в дикой природе. **2.45** В зоопарке Таронга. **3.30** Спасение диких медведей. **3.55, 5.35** Уличный ветеринар. **4.25** Постыдные проблемы питомцев. **4.50** Подработка в дикой глуши.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 2.00, 2.45, 5.00** Авто-SOS. **6.50** Широкий взгляд с Кэлом Пенном. **7.15** Необычные промыслы. **8.05, 8.30, 9.00, 9.25, 9.50, 10.20** Зона строительства. **10.45, 11.40, 12.30** Чудеса инженерии. **13.25, 14.15, 15.05** Вторая мировая война: подводный ад. **15.55** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **18.25** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **21.00** На Марс: история марсохода Персеверанс. **22.30** Марс. **23.25, 0.10, 0.45** Апокалипсис: война миров. **1.25, 5.45** Научные глупости. **3.30, 4.15** Великие рейды Второй мировой войны.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 14.05, 17.55, 22.05, 2.05** Андрей Старков и его команда. **6.30, 22.35, 2.35** Охота в Удмуртии. **7.00, 10.55, 14.50, 18.55, 23.05, 3.05** Нахлыст без границ. **7.25, 11.25, 15.20, 19.25, 23.35, 3.35** Мир рыболова. **8.00, 15.50, 4.00** Рыбалка 360. **8.30, 12.25, 0.35, 4.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **9.00, 13.00, 16.55, 1.05** Сомы Европы. **9.35, 13.30, 17.25, 1.40, 5.30** Готовим на природе. **10.25, 18.25** Сам себе охотник. **11.55, 21.35, 0.05** Рыбалка сегодня XL. **13.45, 17.40, 1.55, 5.45** Давай зарубимся! **14.35** Кодекс охотника. **16.25, 20.30** Рыболовная школа для взрослых. **20.00** Рыболовные путешествия. **21.00, 5.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 14.00, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30, 10.25, 14.30, 18.30, 22.30, 2.50** Доктор смузи. **6.45, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 11.00, 15.05, 19.05, 23.10, 3.20** Секреты стиля. **7.30, 11.30, 15.35, 19.35, 23.40, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.40, 12.40, 16.40, 20.40, 0.50, 4.50** Сельсовет. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Милости просим. **9.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Жизнь в деревне. **13.25** Мегабанщики. **2.00** Особый вкус.

# Як немцы мадэрнізавалі маёнткі на Вілейшчыне

## Марэк Лампрэхт – пра гісторыю сваёй сям'і

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 15, 16, 17.*

ВІЛЕЙКА

**Сённяшняя гісторыя пра маю бліжэйшую сям'ю, прапрадзеда Караля Лампрэхта. Ён нарадзіўся ў 1874 годзе ў маёнтку Ласевічы на тэрыторыі Каралеўства Польскага. Быў сынам старэйшага з роду Лампрэхтаў – Генрыха і яго жонкі Іаанны.**

### Караль Лампрэхт на кардоннай фабрыцы ў Раёўцы

Караль прыехаў у Вязынь з братам Генрыхам-малодшым, які працаваў у маёнтку Гецэвічаў. Тут знайшоў жонку **Анэлю**, у дзявоцтве **Казлоўскую**. Працаваў у паноў **Багдановічаў** у Мацькаўцах, дзе пабудаваў фермы і вадзяны млын, які стаіць і сёння. А потым паехаў на Ігуменшчыну, дзе працаваў у маёнтку ў Лемна. Там нарадзілася трое дзяцей – **Ірэна**, **Вітольд** і **Лявон**. Пазней сям'я пераехала ў Навасёлкі каля Касуты. У 1909 годзе тут нарадзілася яго апошняя дачка, **Канстанцыя**.

У пачатку 1920-х пан **Мечыслаў Багдановіч** займеў кардонную фабрыку ў Раёўцы. Рознагалоссі з яўрэйскім партнёрам прывялі да пажару на фабрыцы ў 1924 годзе, і бізнес развалiўся. Праз некалькі год Багдановіч узяў фабрыку толькі для сябе, афіцыйна назваў яе «Раёўка» і наняў Караля Лампрэхта для арганізацыі справы. Караль узвёў новыя будынкі фабрыкі па другі бок дарогі, млын і пілараму. Абсталяваў фабрыку сучаснымі англійскімі і нямецкімі машынамі. Побач з фабрыкай пабудавалі мураваны дом для інжынераў. А ў вёсцы, дзякуючы падтрымцы Багдановіча, з'явілася новая школа, народны дом і касцёл. Вёска ажыла, ва ўсіх была праца на фабрыцы.

### Як складваўся лёс дзяцей Караля

Пасля аднаўлення Польшчай незалежнасці ўсе дзеці Караля пайшлі ў польскую гімназію Сянкевіча ў Вілейцы. Потым мой дзед Лявон стаў курсантам ваеннай школы сувязі ў Варшаве, але яму гэта не спадабалася і ён паехаў дадому. Скончыў лясныя курсы ў Вільні і стаў дзяржаўным ляснічым у Любані, каля Куранца. Там ён сустрэў прыгожую бландзінку **Ванду**, настаўніцу ў вёсцы Сліпкі. Яны ўзялі шлюб у Куранцы ў 1937 годзе. Неўзабаве Лявон атрымаў павышэнне і пайшоў у лясную дырэкцыю ў Белавежскай пушчы, дзе працаваў да Другой сусветнай вайны.

Брат дзеда Лявона, Вітольд, ездзіў на эканамічныя курсы ў Вільню. На летніх канікулах прыязджаў дадому. Улетку 1932 года ў Вілейцы выступаў тэатр з Гродна. На сцэну выйшла **Ванда** – прыгожая маладая актрыса, у якую Вітольд закахаўся. Яна стала яго жонкай. У 1933 годзе ў іх нарадзіўся сын **Збігнеў**, і неўзабаве Вітольд атрымаў працу падатковага супрацоўніка ў офісе па вуліцы Пілсудскага ў Вілейцы. А жыў ён на вуліцы Каляёвай, 5. Незадоўга да вайны шлюб распаўся, і Ванда вярнулася з сынам у Гродна.

Малодшая дачка Караля, Канстанцыя, вучылася ў школе медсясцёр у Варшаве. Пасля заканчэння не вярнулася дадому. Яе накіравалі на працу ў хірургічную бальніцу ў Сасноўцы, у Сілезіі. Там яна дапамагала вядомым прафесарам у складаных аперацыях.

Старэйшая дачка Караля, Ірэна, засталася з бацькамі і клапацілася пра дом. Неўзабаве яна пазнаёмілася з новым дырэктарам школы ў Раёўцы **Пятром Сініцкім**. Праз некалькі гадоў Ірэна і Пётр узялі шлюб. У Вілейцы ў іх нарадзілася дачка **Данута**.

### Каноэ, ягады, грыбы, паляванне…

У сямейным архіве пачатку 1930-х у нас шмат фотаздымкаў з ідылічнага жыцця Лампрэхтаў і Сініцкіх. Яны плавалі на каноэ па рацэ да Вілейкі і нават да Вільні, загараючы на навакольных палях, збіралі грыбы і ягады ў лясах недалёка ад мяжы. Амаль на кожным фотаздымку можна ўбачыць, што адпачывальнікі нясуць стрэльбу. З гістарычных крыніц я даведаўся, што ў тыя часы бальшавікі часта рабавалі з-за ўсходняй мяжы, і трэба было быць гатовым да абароны.

Караль любіў паляванне. Ён часта браў з фабрыкі сваіх паплечнікаў у далёкія паездкі ў лес і дома збіраў шматлікія трафеі. У старасці пераехаў у дом Лявона ў Тураўшчыне, каля Любані, дзе і памёр у 1935 годзе. Дзе ён пахаваны, мы не ведаем.



Работнікі фабрыкі ў Раёўцы ў 1920-х.

### Фабрыка ў Раёўцы. Дзень сённяшні

У 2018 годзе падчас візіту ў Раёўку нам удалося трапіць на кардонную фабрыку праз дзірку ў плоце. Мы ўваходзілі ў кожны будынак, часам вельмі небяспечны. Сэрца балела, калі я глядзеў на руіны гісторыі, на руіны жыцця вяскоўцаў, якія да нядаўняга часу мелі тут адзіную працу. Людзі са шкадаваннем гаварылі пра росквіт і заняпад фабрыкі. Цяпер прадпрыемства стаіць як гістарычны помнік.

### І прыйшлі бальшавікі

Незалежная Польшча пражыла 20 гадоў. Менавіта для яе працавалі старыя Лампрэхты, а маладыя вучыліся. Ім не дазволілі жыць спакойна. 1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Многія мужчыны Вілейскага павета развіталіся з сем'ямі. Мой дзед Лявон, рэзервіст сувязі, ваяваў у абароне Варшавы і трапіў у нямецкі палон. У кастрычніку яму ўдалося ўцячы ў лагер ваеннапалонных і вярнуцца ў Любань.

А тут ён ужо пабачыў іншы свет. Сямейную зямлю 17 верасня занялі бальшавікі, якія ўвялі тут свой парадак. Паколькі дзед быў ляснiком, яго як дзяржаўнага служачага арыштавалі 10 лютага 1940 года. Разам са сваёй цяжарнай Вандай у вагоне для жывёлы яго два тыдні везлі ў Сібір, у лясы каля Свярдлоўска. Там сям'я правяла трагічныя гады на высечцы лесу. Тут нарадзіўся мой бацька **Януш** у ліпені 1940 года. Яны жылі ў зямлянках у лесе, без ежы і лекаў. Цэлы дзень працавалі за міску халоднага супу. Узімку тэмпература апускалася да мінус 30.

Толькі ў 1943 годзе Лявон уступіў у Першую польскую армію і пайшоў на вайну, а Ванда засталася адна з дзіцем у Сібіры. Дзед дайшоў да Берліна і вывесіў там польскі сцяг. Пасля ён хацеў вярнуцца па сям'ю, але савецкія ўлады забаранілі яму ехаць у Сібір. Патлумачылі, што дзіця, якое нарадзілася ў Сібіры, з'яўляецца рускім і будзе там заставацца.

Вярнуць сям'ю ў Польшчу дапамог сябар з фронту, рускі палкоўнік, які павінны быў пасля вайны надоўга застацца ў Польшчы. Ванда вярталася на ваенным транспарце з падробленымі дакументамі, а Януш быў схаваны ў драўлянай скрыні з патронамі. Так у 1946 яны прыехалі ў Торунь. Аднак Лявону не пашчасціла радавацца жыццю з сям'ёй. Ён памёр ад інфекцыйнай хваробы ў 1948 годзе.

З нашага роду не толькі сям'я Лявона пацярпела ад бальшавікоў. У красавіку 1940 года НКВД арыштаваў маю цётку **Зофію Лампрэхт**, доктара з Варшавы, якая адпачывала ў сваім сямейным доме ў Калядзісе. Яна таксама працавала ў Сібіры ў бальніцы ў лесе. Пасля пайшла ў польскую армію, да Берліна дайшла капітанам-доктарам у ваенным шпіталі. Пасля вайны, хворая, пераехала ў Варшаву. Тут да канца жыцця працавала ў невялікай бальніцы.

Таксама ў 1940-м НКВД прыехаў у дом у Казімірава да стрыечнага брата Лявона – Генрыха Лампрэхта. Знаёмыя беларусы, якія працавалі ў яго на ферме, прыйшлі ноччу, каб перасцерагчы яго ад арышту. Ён адказаў, што паляк і нікуды не ўцячэ. Наступнай ноччу яго арыштавалі і завезлі ў вілейскую турму. Там ён сустрэў стрыечнага брата, мытніка Вітольда Лампрэхта, і многіх іншых польскіх фермераў з гэтага раёна. Бальшавікі забралі новы дом сям'і ў Макаўі і перавезлі яго ў Ілью, дзе жылі новыя ўлады.

22 чэрвеня НКВД эвакуяваў турму ў Вілейцы. Былі створаныя дзве калоны знясіленых, закатаваных вязняў, якіх хацелі адправіць у Сібір. Па дарозе энкавэдэшнікі некаторых расстралялі каля Касуты. Далей калона ішла побач з сямейным домам Генрыха ў Казіміраве. Яго жонка і сваякі выбеглі паглядзець і сярод закатаваных знайшлі Генрыха. Яму паспелі перадаць пакунак з хлебам і сырам.

Генрых адпрацаваў у калгасе ў Казахстане тры гады. Пасля амністыі далучыўся да польскай арміі Андэрса, праз Іран, Палесціну дабраўся да Італіі, дзе ваяваў у Монтэ Касіна. Вярнуўся ў Польшчу ў 1948 годзе. Праз Чырвоны крыж ён знайшоў сыноў Богдана і Багуслава і жонку Марыю. Разам яны пасяліліся ў былым нямецкім горадзе Свідніца.

Калі ў маі 1943 года пачалося вялікае наступленне савецкіх войскаў, немцы ўцяклі з ваколіц Вілейкі. Потым партызаны выйшлі з лесу і спалілі бліжэйшыя сядзібы ў Асцюковічах і Лукаўцы. А ў лесе каля Раёўкі расстралялі польскіх настаўнікаў. Частка сям'і Лампрэхтаў, якая яшчэ заставалася ў гэтых мясцінах, у апошні момант уцякла ў Краснае, адкуль дабралася да Вільні. Там жылі, пакуль новыя савецкія ўлады не загадалі ім ехаць у Польшчу.

Маім продкам на ўсё жыццё хапіла трагічных успамінаў. Яны жылі, каб быць патрыёнамі Польшчы. І пра іх не забыліся. Таму мы і ўскладаем кветкі да помніка Іаанне ў Вязыні.

**Марэк ЛАМПРЭХТ, Варшава.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

**30 КРАСАВІКА**

**1905.** Расійскі імператар **Мікалай II** (Мікалай Крывавы) падпісаў указ пра свабоду веры.

**1 МАЯ**

**1922.** Нарадзіўся **Алесь Салавей (Альфрэд Радзюк)**, беларускі паэт. У 1942 годзе ў час акупацыі працаваў у Вілейскай акрузе ў павятовай управе ў Ільі. Памёр у Аўстраліі.

**1949.** У в. Далідавічы Валожынскага раёна нарадзілася **Ядвіга Паплаўская**, беларуская кампазітарка, эстрадная спявачка, народная артыстка Беларусі.



**2 МАЯ**

**1977.** Трагедыя ў Крыжоўцы. Сутыкненне пасажырскага цягніка Гродна-Орша з прыгарадным электрацягніком, у выніку якога загінулі 22 чалавекі. Найбуйнейшая аварыя за ўвесь час існавання Беларускай чыгункі па колькасці ахвяр і па нанесеных стратах.

**3 МАЯ**

**1942.** Нарадзілася **Марыя Вайцяшонак**, беларуская пісьменніца. У друку з 1959 года. Працавала ў школе ў Мядзеле. З 1974 – на журналісцкай працы.

**4 МАЯ**

**1909.** Нарадзіўся **Уладзімір Курэц**. Вядомы віленскі аўтагоншчык і авіятар, прамысловец. Удзельнік шматлікіх аўта- і авіяцыйных спаборніцтваў. Сын Рыгора Курэца, вядомага прамыслоўца і архітэктара, які паходзіў з Шыпкоў на Вілейшчыне. Памёр у 1972 годзе ў Германіі.

**5 МАЯ**

**1868.** У Шыпках ля Хаценчыцаў у сялянскай сям'і нарадзіўся **Рыгор Курэц**, беларускі архітэктар, прамысловец, канструктар і будаўнік. Заснавальнік найбуйнейшай папаровай фабрыкі пад Вільняй у 1925 годзе. Ад яго імя паходзіць назва фабрычнага мястэчка Грыгарова (цяпер Грыгешкес) у ваколіцах Вільні. Памёр у 1942 годзе.

**6 МАЯ**

**1801.** У Вільні адкрытыя могілкі на Росе, адзін з найстарэйшых і найкаштоўнейшых у гісторыка-культурным плане некропаляў Літвы. Месца спачыну многіх выдатных сыноў і дачок беларускага Павілля.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Думаў, што не адпусцяць». Палітзняволены віляйчук – пра тры месяцы арышту ў Баранавічах

**Палітзняволенага вілейчука Андрэя Сысуна вызвалілі 17 красавіка. Ён адбыў тры месяцы арышту, якія атрымаў пасля суда ўзімку 2020 года за псаванне маёмасці: напісаў на сценах вілейскага пад'езда «3%», «Л…, сыходзь», «Жыве Беларусь!».**



Фота забяспечанае Андрэем СЫСУНОМ.

Сысун сядзеў тэрмін не ў калоніі, а ў следчым ізалятары.

«Рэгіянальная газета» пагутарыла з Андрэем пасля вызвалення пра суд, быт у СІЗА і як праходзіць адаптацыя да жыцця па-за кратамі.

## «Я хацеў да лета быць на волі»

Мы дамовіліся сустрэцца з Андрэем каля яго дома ў Вілейцы. Сысун жыве ў адным са спальных мікрараёнаў амаль 30-тысячнага горада. У дварах бегае шмат дзяцей, яны гуляюць і гучна крычаць. Падчас гутаркі былы зняволены ўвесь час азіраецца на дзіцячы крык ды і на любы моцны гук.

**У верасні 2020-га Андрэй у кампаніі сяброў зрабіў надпісы ў пад'ездзе аднаго з дамоў, які знаходзіцца непадалёк.**

«Жыве Беларусь!», «Л…, сыходзь!» і «3%» – гэтыя надпісы органы разглядалі як псаванне маёмасці, а матэрыяльную шкоду ацанілі ў 167 рублёў.

– Мяне не затрымлівалі ў верасні. Праз нейкі час ужо пачаліся следчыя дзеянні. Прыехалі да таго дома, спыталі: «Гэты?». Я сказаў, што гэты. І ўсё.

Пра крымінальную справу Сысун даведаўся, калі яго затрымалі ў Вілейцы з бел-чырвона-белым сцягам і далі 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Ужо ў ізалятары ў яго запыталі супрацоўнікі пра крымінальную справу за псаванне маёмасці, якая была ўзбуджаная супраць яго.

Андрэй знаходзіўся на волі да суда. Былі ўсяго два пасяджэнні – 28 і 29 снежня 2020 года. На першым ён адмовіўся ад адваката, бо прызнаў віну і не бачыў сэнсу ў абароне. На другім пасяджэнні адмовіўся выступаць у спрэчках бакоў і з апошнім словам.

– Усё вельмі хутка адбылося. Выступалі нейкія сведкі, якіх я ўпершыню бачыў. Быў адзін мужчына там. Яму суддзя кажа, ці пазнае ён абвінавачанага. Той пачаў глядзець на ўсіх у зале, не мог пазнаць. Суддзя гаворыць мне: «Вы ўстаньце, бо зараз не на таго яшчэ пакажа». Мужык той пачаў казаць, што бачыў мяне, што я напісаў дрэнна пра нашага бацьку.

Суддзя суда Вілейскага раёна **Таццяна Борыс** прызнала Сысуна вінаватым і прызначыла пакаранне – тры месяцы арышту. Мужчына ўспамінае словы, якія пачуў на судзе: «Добра, што цябе судзяць па гэтым артыкуле, а не як іншых па хуліганстве».

**Уладзіміра Атрошчыка**, які быў у кампаніі з Сысуном у той вераснёўскі вечар і насіў надпісы, таксама асудзілі. Ён павінны быў сядзець на дамашняй «хіміі», але парушыў рэжым, таму яго адправілі на два з паловай гады ў калонію.

## Тры месяцы за кратамі

У судовай зале Андрэя не затрымалі, ён быў на волі да 18 студзеня.

– Я сам патэлефанаваў следчаму. Кажу, а калі мяне забяруць, ужо час ідзе. Я хацеў да лета быць на волі.

**Па словах Андрэя, яму сказалі, што згубілі нейкія дакументы, таму яго пакуль не адправілі адбываць пакаранне. 19 студзеня ўсё-ткі вілейчука адправілі па этапе.**

– Жодзіна, Гродна і пасля Баранавіцкі СІЗА. Шчыра скажу, што ў Жодзіне было добра, калі параўноўваць з іншымі месцамі: карmілі, ты мог паспаць, рабіць, што хочаш, – успамінае Сысун.

Віляйчук удакладняе, што яго не саджалі ў адну камеру разам з палітычнымі. Ён лічыць, што гэта рабілі спецыяльна. Па яго словах, палітычных рассаджвалі праз некалькі камер. Пасля прыбыцця ў Баранавіцкі СІЗА вілейчука паставілі на ўлік, як «схільнага да экстрэмісцкіх і дэструктыўных дзеянняў».

– Кожныя паўгадзіны адчынялася «кармушка», я павінны быў назваць сваё імя, артыкул, тэрмін пакарання і што, маўляў, схільны да экстрэмізму. Цягнулася так прыкладна месяц, а потым, напэўна, яны паленаваліся гэта рабіць.

Паводле Андрэя Сысуна, калі яго этапавалі ў Баранавіцкі СІЗА, сініх бірак – для тых, хто «схільны да экстрэмізму», – ён не бачыў. Па яго словах, «схільных да экстрэмізму» ў СІЗА пазначаюць у картках, а не ў адзенні.

– Палітычных стала больш, калі вызваляўся. Я ведаў, што ў СІЗА сядзяць хлопцы па «пінскай справе», даволі шмат іх там. Але з імі ніколі не перасякаўся.

Андрэй успамінае, што да яго садзілі людзей, якія спрабавалі высветліць, чаму ён трапіў за краты, і ўвогуле даведацца пра ўсё, што датычыцца Сысуна. Па словах былога вязня, за гэта адміністрацыя давала гэтым людзям цыгарэты. Час за кратамі палітвязень бавіў за чытаннем кніг. Лістоў прыходзіла няшмат, а некаторыя лісты ад сяброў увогуле не дайшлі.

– У мяне дома ляжаць стосы лістоў, але гэта не ўсе. Я так разумею, што некаторыя альбо не даходзілі, альбо іх не прапускалі цэнзары. Пісалі хлопцы з Вілейкі, але я ад іх лісты ў СІЗА так і не атрымаў.

## Што такое быць палітвязнем і што з Андрэем пасля вызвалення

25 лютага беларускія праваабарончыя арганізацыя заявілі, што абмежаванне волі Андрэя Сысуна з'яўляецца палітычна матываваным, а самога Сысуна прызналі палітычным зняволеным.

– Даведаўся, што прызналі мяне палітзняволеным з ліста, які мне напісалі. Ці былі ад гэтага якія-небудзь бонусы? Не.

Сысуна выпусцілі з-за кратаў 18 красавіка, але ён увесь час у СІЗА думаў, што гэтага не адбудзецца.

– Выходжу, мне даюць паперку аб вызваленні і адразу забіраюць. Думаў, вось так будзе, калі сядзеў. Думаў, што не адпусцяць. Думаў, што адвязуць на Валадарку.

Андрэй выйшаў, каля СІЗА ў Баранавічах яго сустрэла жонка: «Сеў у машыну і кажу: усё, паехалі адсюль!».

**На волі віляйчук знаходзіцца менш за тыдзень. Ён кажа, адаптацыя да звычайнага жыцця праходзіць нармальна. Цяпер Андрэй шукае працу.**

– Мне трэба кожную нядзелю хадзіць на прафілактычныя гутаркі, пакуль працу сабе не знайду. Трэба адзначацца і ёсць некаторыя абмежаванні.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Якія дзівацтвы чакаюць падчас выхавання дзяцей

СМАРГОНЬ

**Усе мы родам з дзяцінства, усе вучыліся пазнаваць навакольны свет. І кожны пасвойму, у кожнага быў свой адметны шлях і найперш – у сям’і.**

Сям’я – гэта самыя блізкія родныя людзі. У сям’і, як нідзе больш, пануе атмасфера дабрыні, даверу, узаемаразумення і ўзаемадапамогі. Тут адчуваеш ласку, любоў і заўсёды абаронены.

Бацькі – самыя першыя выхавальнікі і настаўнікі, дактары і псіхолагі. У сям’і дзіця робіць першыя крокі, вучыцца размаўляць, засвойвае правілы паводзін, даведваецца, што такое дрэнна і што такое добра.

Дзеткі заўсёды шчырыя, а пытанняў у іх безліч. Нават дзіву даешся, ёсць такія, што адразу і не адкажаш.

Я неяк ужо ў сталым узросце, калі ўнукі свае былі, пачала запісваць цікавыя выказванні дзяцей, нават суседскіх. Хай будзе на памяць, ужо цэлы сшытак сабраўся. Успамінаеш – і неяк цёпла на душы становіцца. Наша сям’я не была вялікай. Я, муж і двое дзетак. Дачушка Леначка і сынок Віцька.

Дачка ўжо на пенсіі, але яшчэ працуе. Яна загадчыца аптэкі ў Мінску. Сын працуе выхавальнікам у Маладзечанскай школе для дзяцей са скаліёзам. У Лены дзве дачкі – Галя і Таня. У Галі ёсць сынок – мой праўнук. Мікітка вучыцца ў другім класе. Таніна дачушка Жэнька вучыцца ў першым класе. У Віці адзін сын, Сярожа, працуе ў Мінску.

Я добра памятаю, якія яны былі, калі былі маленькія, як спазнавалі свет. Толькі не помню дакладны ўзрост, у якім сказалі тое ці іншае.

Вось некаторымі такімі ўспамінамі дзялюся з вамі, чытачы.

### Успаміны пра дзяцінства сына

Сыну, можа, гады два, ужо ішоў трэці. Неяк вечарам адключылі святло. Малы просіць уключыць. Тлумачу, што святло не ўключыш, бо станцыя не дае току, які бяжыць да нас па правадзе.

Сядзім некаторы час у змроку. Па вуліцы едзе машына. Малы адразу рэагуе:

– Мама, а чаму станцыя машыне дала ток?

***

Бяжыць з вуліцы і крычыць:

– Мама, хутчэй ідзі паглядзі! Ля нашага дома стаіць машына з разяўленым ротам!

Мне нават цікава стала, як гэта. Ідзём. Аказалася, шафёр падняў капот. Збоку і сапраўды нагадвае разяўлены рот.

***

Высушыла неяк чарніц. Частую сына, высыпала ў слоік, закрыла і кажу: «Хай гэта будзе на зіму, як жывот забаліць, то добра памагае». Сын ківае галавой, пагаджаецца. Пабег гуляць. Прыходзіць і кажа: «Мне нешта жывот забалеў. Мусіць, трэба чарніц паесці». Бачыш ты яго, ужо хацеў схітрыць. Тлумачу, што нельга падманваць, заўсёды трэба казаць праўду.

***

Панадзіліся дзеці ў калгасны гарох хадзіць, струкі зялёныя рваць. Я ім кажу, што нельга так рабіць і суседскім дзецям, і вам, бо старшыня штраф дасць.

– А што такое штраф? – пытаецца Віця

– Ну, скажа, напрыклад, давайце па пяць рублёў.

На другі дзень сын кажа: «Давай, мама, пяць рублёў. Пайду ў гарох. Як прыйдзе старшыня, то яму аддам». Давялося тлумачыць больш даходліва.

***

Сыну было каля шасці год. Вось надыходзіць дзень нараджэння. Зрабіла салодкі стол, запрасіў сяброў. А суседскі хлопчык, значна меншы, прынёс у падарунак машынку. Пагасцявалі. Назаўтра Вовачка прыйшоў да Віці гуляць. Бавілі час, а адыходзячы дадому, Вова забірае машынку, што ўчора падарыў.

– Нашто маю машынку забіраеш? – пытаецца Віця.

– Гэта ж мая машынка, – сцвярджае Вова.

– Як твая, ты ж мне яе ўчора падарыў.

– Ну і што, што падарыў. Учора падарыў, а машынка ж мая.

– Віцька, хай ён бярэ, ён жа меншы, – кажу я.

Віцька незадаволена змаўкае, а Вова радасны пабег з машынкай. Праз нейкі час ідзе Вовачка з маці, аддае Віці машынку. Я і думала, што так яно і будзе.

– На, бяры. Я ж табе падарыў, то яна твая. А мне мама купіць нават лепшую.

Вось і ўладзіўся канфлікт. Лепш за ўсіх угаварыць дзіця зможа маці.



Фота забяспечанае Яўгеніяй КУЛЕВІЧ.

**Аўтар Яўгенія Кулевіч каля дома з унукамі. Старэйшая ўнучка, Галя, і меншая, Таня, – дзеці дачкі Алены. Сярожа – унук па сыну.**

***

Прыйшлі ў краму, сын, як звычайна, просіць што-небудзь купіць. А дзе ты кожны раз накупляешся, то тады адказваю: «Грошай няма».

– Мама, як няма, то ідзі і палучы.

Вядома, у яго разуменні было, што атрымліваеш тады, калі трэба. І так кожную рэч трэба тлумачыць.

***

Вару грыбны суп. Пакрышыла грыбкі ў талерку, а потым укінула ў каструлю з варам. І тут малы падбягае.

– Мама, а ты мой грыбок укінула?

– Які твой грыбок?

– А я з пластыліну зляпіў і пакрышыў табе ў талерку.

Прыйшлося суп выліваць. То ж трэба, пакрышыў, я і не бачыла, калі. Вось так і спазнаюць свет.

***

Неяк паехаў муж у Мінск на курсы ўдасканалення. Прысылаў дамоў лісты. А малы хоча, каб кожны дзень татка ліст дасылаў. Здаецца, навошта яму, чытаць жа не ўмее. Паштальёна сустракае кожны дзень і пытаецца:

– Дзядзя, а вы ў Мінску былі?

– Быў, быў, хлопчык.

– А тата пісьмо не даў?

– Не, не даў. Як дасць, то прынясу.

***

Перабіраю я ў скрыначцы дакументы. А ён тут жа цікуе.

– А вось і тваё пасведчанне аб нараджэнні.

– Дай.

Даю. Ён паглядзеў, разгарнуў і панёс да сваіх цацак.

– Куды панёс, давай сюды!

– Ты ж сказала, што гэта маё, – і незадаволена аддае. Вось і зноў спатрэбілася разгорнутае тлумачэнне.

***

Размаўляем з мужам, успамінаем часы Другой сусветнай вайны. Малы прыцішыўся, слухае. Раптам пытаецца:

– А дзе я быў?

– Цябе яшчэ не было.

– Як гэта не было? А дзе я быў?

Вось тут і папаліся – некалькімі сказамі не абыдзешся, давялося растлумачваць. А дзіця не магло ўявіць, што некалі яго не было.

***

Сын неяк спантанна пытанні задаваў, а Лена заўсёды лагічна разважала, старалася рабіць свае высновы. Мела большую схільнасць да лінгвістыкі.

Доўгі час не атрымлівалася ў дачкі самастойна хадзіць. Як за ручку вядзеш, то ідзе добра. А як сама – поўзае на карачках.

Аднойчы летам прайшла навальніца. Паветра цёплае, сонца, лужынкі на падворку. Пайшлі з ёй на вуліцу. Вяду за ручку. Адпусціла, а яна – хоп і на карачкі, дапаўзла да лужыны. Думаю, што ж яна будзе рабіць? Бачу, падняла галоўку і глядзіць на ваду. А пасля паднялася сама на ножкі і пайшла памаленьку вакол лужы. Потым ідзе да мяне. Вядома, я яе пахваліла, сказала, каб так і хадзіла. З таго часу Лена пайшла сама ножкамі.

**Яўгенія КУЛЕВІЧ,**
**вёска Сялец**
**Смаргонскага раёна.**

*Заканчэнне будзе.*

# Вяз у Талуях прызналі батанічным помнікам рэспубліканскага значэння

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 26 красавіка стары вяз у вёсцы Талуі Маркаўскага сельсавета афіцыйна лічыцца батанічным помнікам рэспубліканскага значэння. Адпаведную пастанову Мінпрыроды прыняло 5 красавіка.**

Летам актывісты плануюць зладзіць урачыстае адкрыццё помніка, паставіць камень з інфармацыяй пра вяз.

### Спачатку была публікацыя ў «РГ»

А пачалася гісторыя з вязам-старажылам яшчэ ў 2011 годзе. Яе прыгадаў віляйчук **Міхаіл Міхалевіч**:

– Так атрымалася, што пра вяз-старажыл у Талуях даведаўся мой сябар і сябар «Рэгіянальнай газеты» маладзечанец **Пётр Цыгалка**. Пра незвычайнае дрэва ён расказаў мне, бо ведаў, што я збіраю звесткі пра вялікія дрэвы. Падчас чарговага рэйду па добраўпарадкаванні я трапіў у Талуі, агледзеў і абмераў дрэва. Яно было ў кепскім стане – вакол яго кучы смецця, засмечаным таксама было і вялізнае дупло ў ствале.

Тады віляйчук памераў дрэва і зразумеў, што, хутчэй за ўсё, гэты вяз самы стары і вялікі ў Беларусі. Міхаіл Міхалевіч падрыхтаваў матэрыял пра незвычайнае дрэва і ўпершыню апублікаваў звесткі пра вяз у «Рэгіянальнай газеце» ў 2013 годзе. Артыкул называўся «Вяз, з вышыні якога бачныя адразу тры гарады – Маладзечна, Вілейка і Смаргонь».

– Цікава, што адзін з нешматлікіх жыхароў Талуёў, **Іван Дурэйка**, выпісваў газету. Было некалькі падпісчыкаў і ў суседнім Маркаве, – працягвае суразмоўца. – З публікацыі яны даведаліся пра ўнікальнае дрэва. Адразу прыбралі смецце, жэрдкі, што захоўвалі пад вязам. Знялі прыбітыя апоплі, па якіх па дрэве лазілі дзеці. І паступова дрэва пачало ажываць, само сябе лячыць, стала зацягвацца дупло.



Пра вяз-старажыл актывісты даведаліся ў 2011 годзе. А пасля было некалькі публікацый ў «Рэгіянальнай газеце».

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

### Як пра вяз з Талуёў даведаліся навукоўцы

Міхаіл Міхалевіч адзначае, што праз пэўны час пра вяз-старажыл на Маладзечаншчыне прачытаў у прэсе ініцыятыўны начальнік Маладзечанскай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Уладзіслаў Чарноў**. Спецыяліст зразумеў, што гэта важна, і звярнуўся ў Нацыянальную акадэмію навук, у Інстытут эксперыментальнай батанікі імя Купрэвіча. Навукоўцы даследавалі дрэва і зрабілі навукова-тэхнічнае абгрунтаванне пра яго як пра помнік прыроднага значэння. Пачаліся станоўчыя зрухі, вызначылі межы помніка. Шмат у чым дапамог Маркаўскі сельвыканкам.

### Да захавання вяза далучыліся людзі з усяго свету

Актыўную пазіцыю заняў і мясцовы жыхар Іван Дурэйка. Ён ладзіў прыборкі каля вяза, хадзіў на прыём да начальніка Камітэта па ахове навакольнага асяроддзя, дабіваўся таго, каб паглыбіць вадаём каля дрэва.

– Калі Іван Уладзіміравіч стварыў дабрачынны рахунак на паглыбленне вадаёма, людзі з усяго свету пералічвалі грошы на добрую справу. І ў выніку сабралі сродкі, каб паглыбіць сажалку.

Міхаіл Міхайлавіч перакананы: прысваенне вязу статусу батанічнага помніка рэспубліканскага значэння – гэта перамога неабыякавых людзей і «Рэгіянальнай газеты». А вяз ужо называюць цудам Маладзечаншчыны.

### Іван Дурэйка: Дзякуй усім неабыякавым людзям

Коратка планамі пра далейшы лёс вяза-старажыла з намі падзяліўся жыхар Талуёў, захавальнік вяза Іван Дурэйка:

– Канешне, навіна пра прызнанне вяза помнікам прыроды рэспубліканскага значэння перапаўняе мяне радасцю. Дзякуй і Міхаілу Міхалевічу, і Уладзіславу Чарнову, і ўсім, хто далучыўся да справы. У планах – урачыстае адкрыццё. Прывязём добры камень, на якім размесцім шыльду ў выглядзе кнігі. На адной старонцы будзе інфармацыя пра вяз, на другой – звесткі з гісторыі Талуёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Аляксандр Хазянін выдаў кнігу «Светлыя прамені»

МАЛАДЗЕЧНА

**Журналіст і былы рэдактар «Маладзечанскай газеты» выпусціў зборнік артыкулаў пра людзей, якіх узвышае праца.**

Прэзентацыя кнігі адбудзецца ў Палацы культуры 5 мая, у Дзень друку. Пачатак імпрэзы ў 17:30.

Найперш выданне зацікавіць тых, каму захочацца даведацца пра славутых землякоў тое, што адзначыў у памяці і сваіх запісах аўтар.

Напрыклад, у артыкуле пра доктара медыцынскіх навук прафесара **Леаніда Путырскага** расказваецца выпадак з дзяцінства будучага доктара:

«А было так: старэйшыя дзеці ў траншэі для водаправодa вырылі пячору. Гулялі тут. Далі і Лёню сапёрнай лапаткай пакапаць. Самі ж сталі скакаць. Зямля і абвалілася… Ніхто гэтага не чакаў. Дзеці ад страху і адчаю закрычалі. Трывогу пачулі дарослыя. Схапіўшы хто што, сталі, ратуючы Лёню Путырскага, адкопваць. Бацька ад хвалявання і страху, не знайшоўшы лапаты, разграбаў зямлю дошкай.

Хлопчык выжыў. Дзякуючы таму, што ў траншэі ляжаў тварам уніз. Яго адкапалі сінім. Першае, што ўбачыў, вярнуўшыся з таго свету, гэта вялікія вочы доктара, які сказаў матулі Леаніда:

– Ну вось бачыце, будзе жыць. Ён яшчэ вырасце і стане вялікім чалавекам».

Можна даведацца падрабязнасці адкрыцця мамалагічнага цэнтра ў Бараўлянах, з якімі жыццёвымі гісторыямі пацыентаў сутыкнуў доктара лёс, а таксама як даглядаў дваіх дзяцей, пакуль жонка пісала дысертацыю. А таксама пра тое, як доктар стаў яшчэ і паэтам.

Пра кандыдата медыцынскіх навук **Франца Світо** ведаюць многія. У кніжцы Хазяніна падрабязна апісана, для чаго і як той распрацаваў прэпарат з мачавіны для ін'екцый, які пасля цягам пяці год выраблялі ў Маладзечне і забяспечвалі ім 92 клінікі былога СССР.

Як Чысць з балоцістай мясціны стала месцам, дзе квітнела будаўнічая справа? Якія сакрэты расказваў журналісту першы генеральны дырэктар таварыства «Забудова» **Іосіф Русак**? Вось што прыгадвае Хазянін са слоў Русака:

«Калі працавалі разам з немцамі, здавалася, што не вытрымаем: нагрузка была вар'яцкая – па 18 гадзін у суткі. У немцаў – усё дакладна. Яны да такога рытму прызвычаіліся, мы – не. І ўсё ж «агеньчык» будаўніцтва з будаўнікамі замежжа прайшлі паспяхова.




Задуманае на практыцы ўвасаблялася ў жыццё. Быццам веліканы, узнімаліся вытворчыя карпусы. Чысць прыгажэла, пашырала межы. Узводзіўся жылы масіў, у тым ліку каля пяцісот кватэр для перасяленцаў з Чарнобыля».

У кнізе вы знойдзеце артыкулы пра іншых землякоў, якія стануць больш блізкімі праз успаміны журналіста, а гісторыя роднай зямлі – больш зразумелай.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# «Пужала невядомасць»

## Маладзечанскі ліквідатар – пра тушэнне пажараў у радыеактыўнай зоне

**26 красавіка 1986 года адбылася самая буйная тэхнагенная катастрофа ў гісторыі чалавецтва. Адным з ліквідатараў аварыі на Чарнобыльскай АЭС стаў маладзечанец Аляксандр Новік.**



Аляксандр Новік.

Аляксандр Новік прысвяціў сваё жыццё службе пажарным. Ён адпрацаваў у гэтай сферы 28 год. Новік трапіў у пажарную ахову ў 1977 годзе. Пасля школы паступіў у Мінскі палітэхнікум ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга (цяпер – Мінскі дзяржаўны політэхнічны каледж) на аддзяленне «Супрацьпажарная тэхніка і бяспека».

– Выбар прафесіі – гэта справа шчаслівага выпадку. Мы жылі па суседстве з палкоўнікам Аляксандрам Ляонікам. Менавіта гледзячы на яго я марыў насіць форму выратавальніка, – успамінае Новік.

Калі здарылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС, начальнік самастойнай ваенізаванай пажарнай часці ў Маладзечне аб'явіў на пастраенні, што патрабуецца каманда добраахвотнікаў для паездкі ў радыеактыўную зону для ліквідацыі наступстваў.

– Калі б не знайшлі добраахвотнікаў, начальніку прыйшлося б самому прызначаць, каму туды ехаць. Я і мае сябры былі адчайнымі хлопцамі. Мы разумелі, што гэта наш доўг.

Аляксандр Новік успамінае, што добраахвотнікаў было шмат. У першы зводны атрад увайшлі пажарныя з Барысава, Салігорска і Маладзечна. 24 мая першыя добраахвотнікі былі ў 30-кіламетровай зоне ў вёсцы Савічы Брагінскага раёна. Новік прыбыў у зону ў трэцім зводным атрадзе – іх было 15 чалавек. Маладзечанскі пажарны трапіў туды 19 чэрвеня і знаходзіўся да 3 ліпеня.

Новік успамінае, што ў той час не было дажджу, стаяла спякотнае надвор'е. Тарфяныя пажары на Палессі былі зацяжныя, не хапала вады, а ўсе арашальныя каналы перасохлі. У ахоўных касцюмах было вельмі спякотна. Каб не было так горача, мы залазілі ў канавы. На тушэнне пажараў выязджалі на цэлы дзень, з сабой бралі сухія пайкі. А жылі ў будынку дзіцячага садка.

– Калі што і пужала, дык гэта невядомасць. Ніхто не ведаў, як засцерагчыся ад нябачнага ворага, – успамінае Новік.

Былы пажарны расказвае, што праца была настолькі цяжкая, што пра вяртанне дадому не было сіл думаць.

– Вось калі вярталіся дадому, то эмоцыі перапаўнялі. Мы былі шчаслівымі выратавальнікамі, якія выканалі свой доўг.

**Валянціна СОПАТ, Маладзечанскі ГРАНС.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

## Еўрапейскі тыдзень імунізацыі

**Ад 26 красавіка да 2 мая 2021 года Сусветная арганізацыя па ахове здароўя праводзіць штогадовы Еўрапейскі тыдзень імунізацыі, каб прыцягнуць увагу і яшчэ раз напомніць грамадскасці аб ключавой ролі, якую імунізацыя іграе ў абароне здароўя людзей на ўсіх этапах жыцця. Штогод дзякуючы планавай імунізацыі прадухіляецца да трох мільёнаў выпадкаў смерці ад дыфтэрыі, слупняку, коклюшу, грыпу і адру.**

Мэта масавай імунізацыі – фарміраванне калектыўнага імунітэту, які абараняе ад інфекцыйных захворванняў.

**У выпадку з каронавіруснай інфекцыяй масавая вакцынацыя – адзіны спосаб барацьбы і абароны ад захворвання, таму што спецыфічнага лячэння на сённяшні дзень не існуе.**

На тэрыторыі Маладзечанскага раёна вакцынацыя супраць каронавіруснай інфекцыі праводзіцца ў прышчэпачных кабінетах на базе паліклінік №№1, 2, 3 з выкарыстаннем вакцыны Гам-Кавід-Вак (гандлёвая марка «Спутнік V») у два этапы з інтэрвалам у 21 дзень. Абавязковай умовай перад правядзеннем прышчэпкі з'яўляецца медагляд для выключэння супрацьпаказанняў і атрымання дазволу на вакцынацыю, а таксама знаходжанне ў межах тэрыторыі медыцынскай установы на працягу 30 хвілін пасля вакцынацыі.

**На 28 красавіка поўны курс вакцынацыі прайшлі 899 жыхароў Маладзечанскага раёна, адной дозай прышчапіліся 3236 чалавек.**

У рамках Еўрапейскага тыдня імунізацыі ад 26 красавіка да 2 мая 2021 года з 8:30 да 10:00 у Маладзечанскім занальным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі па тэл. 54-28-58 доктарам-эпідэміёлагам будзе праводзіцца кансультацыя грамадзян па дадзенай тэматыцы. Кансультацыю можна атрымаць у іншых спецыялістаў арганізацый аховы здароўя Маладзечанскага раёна.

**Юлія ПІШЧАКА, доктар-эпідэміёлаг.**

## Дайджэст: Індыя б'е рэкорды па каронавірусе, не дазволены «Чарнобыльскі шлях»

**«Рэгіянальная газета» расказвае, што здарылася ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень.**

### Расія адвяла войскі ад мяжы з Украінай

Міністр абароны Расіі **Сяргей Шайгу** прыняў рашэнне завяршыць праверачныя мерапрыемствы ў Паўднёвым і Заходнім ваенных акругах, паколькі ўсе пастаўленыя мэты былі дасягнутыя.

Праверка Узброеных сіл Расіі пачалася на фоне паведамленняў, што расійскія войскі сцягваюцца да мяжы з Украінай.

**Паводле ТАСС.**

### У Мінску не дазволілі правесці «Чарнобыльскі шлях»

Мінгарвыканкам адмовіў арганізатарам у правядзенні «Чарнобыльскага шляху». Аб гэтым паведаміў глава партыі «Зялёныя» **Дзмітры Кучук**.

У адказе на заяўку Мінгарвыканкам указаў некалькі прычын для адмовы: адсутнасць дамовы з міліцыяй, «хуткай» і камунальнікамі, неадпаведнасць маршруту шэсця і каронавірус.

**Паводле TUT.BY.**

### Расійскія кампаніі могуць спыніць пастаўку нафты беларускім заводам

Расійскія экспарцёры нафты могуць спыніць пастаўку рэсурсу беларускім нафтаперапрацоўчым заводам.

У першую чаргу, гаворка ідзе пра «Нафтан». Гэта можа адбыцца праз аднаўленне амерыканскіх санкцый у дачыненні да буйных прадпрыемстваў Беларусі.

Амерыканскія ўлады аднавілі санкцыі ўпершыню з 2011 года з-за парушэння правоў чалавека, фальсіфікацыі выбараў.

**Паводле Reuters.**

### У Індыі рэгіструюць вялікую колькасць смерцяў ад COVID-19

За апошні тыдзень у Індыі зарэгістравалі больш выпадкаў каронавіруса, чым у любой іншай краіне. Другая хваля прывяла да таго, што колькасць загінулых перавысіла 200 тысяч чалавек. У Індыі прышчапіліся толькі 1,6% насельніцтва.

**Паводле BBC.**

### Прадукцыю «Шкоды», «Нівеі» і «Ліквi Молі» забаранілі ў Беларусі

Прадукцыю замежных брэндаў забаранілі пастаўляць і рэалізоўваць у Беларусі. Такое рашэнне прыняў Савет Міністраў.

Нагадаем, што дадзеныя брэнды адмовіліся спансіраваць чэмпіянат свету па хакеі, калі ён пройдзе ў Мінску.

**Аддзел інфармацыі.**

### Сталі вядомыя тэрміны правядзення рэферэндуму

У Беларусі правядуць рэферэндум па папраўках у Канстытуцыю ўзімку 2022 года. Аб гэтым паведаміла старшыня ЦВК **Лідзія Ярмошына**.

Рэферэндум могуць сумясціць з выбарамі ў мясцовыя саветы.

**Паводле РІА Навіны.**

# «Смаргонь» перамагла ў матчы вышэйшай лігі ўпершыню за 12 год

**Смаргонскія футбалісты заставаліся без перамог пяць тураў запар у вышэйшай лізе. Каманда пад кіраўніцтвам Вячаслава Герашчанкі мела адну нічыю і чатыры паражэнні і не забіла за пяць матчаў аніводнага гола. У шостым туры «Смаргонь» сустрэлася з рэчыцкім «Спадарожнікам» – як прайшоў матч, расказвае «Рэгіянальная газета».**




Фота Сергей Плюто для ФК «Смаргонь».

Смаргонцы не забівалі ў пяці матчах запар да гульні са «Спадарожнікам».

### Два галы і першая перамога

Гульня «Смаргоні» і «Спадарожніка» адкрывала матчы шостага тура чэмпіянату Беларусі. Матч пазіцыянавалі як сустрэчу двух аўтсайдараў вышэйшай лігі, што знаходзяцца ў самым канцы турнірнай табліцы. У мінулым сезоне абодва клубы гулялі ў першай лізе. Смаргонцы ўпершыню ў сезоне прынялі сапернікаў на дамашнім полі.

У першым тайме гульня атрымлівалася грубай. Жоўтыя карткі рэферы **Дзмітры Дзмітрыеў** даў чатыром гульцам. «Гарчычнікі» на свой рахунак запісалі смаргонскія футбалісты **Леанід Ковель**, **Данііл Копач**, **Андрэй Штыгель**, а таксама і прадстаўнік рэчыцкага клуба **Станіслаў Іжакоўскі**.

На 35-й хвіліне сустрэчы паўабаронца **Сяргей Бандарэнка** аддаў дакладную перадачу ў варатарскую зону «Спадарожніка». Там мяч ужо чакаў Леанід Ковель, які накіраваў яго ў вароты саперніка. Гэта быў першы гол Ковеля на родным стадыёне ў Смаргоні за яго прафесійную кар’еру.

**У другім тайме смаргонцы працягнулі ціск на палову поля саперніка.**

Разам з гэтым груба памыляліся рэчыцкія футбалісты. На 58-й хвіліне жоўтую картку атрымаў смаргонскі паўабаронца **Уладзіслаў Яцкевіч**. А далей арбітр пачаў караць за неахайныя памылкі «Спадарожнік». Пасля пачатку другога тайма жоўтую картку атрымаў **Аляксей Валавік**, а на 76-й хвіліне яму паказалі ўжо чырвоную і выдалілі з поля.

На апошніх хвілінах сустрэчы ў другім тайме смаргонцы пайшлі ў контратаку. Супраць двух абаронцаў «Спадарожніка» аказаліся аж пяць футбалістаў «Смаргоні». Мяч апынуўся ў **Артура Валікаева**, які аддаў не вельмі дакладную навясную перадачу на **Артура Сагітава**. Сагітаў, знаходзячыся ў варатарскай зоне, прабіў па варотах, але галкіпер «Спадарожніка» **Канстанцін Рудзёнак** адбіў мяч. Аднак мяч адляцеў на паўметра ўверх, галавой у вароты саперніка яго дакладна забіў Данііл Копач.

### Што сказалі трэнеры «Смаргоні» і «Спадарожніка»

Вячаслаў Герашчанка лічыць, што смаргонскія футбалісты правялі якасную гульню, добра згулялі ў абароне.

– Нездарма кажуць, што дома і сцены дапамагаюць. Мы першыя пяць тураў гулялі ў гасцях, мянялі дамашнія матчы на выязныя. Вядома, першы матч дома – гэта асаблівыя эмоцыі. Па сутнасці – адкрыццё чэмпіянату. Ну і рады за Лёню Ковеля, якому на родным стадыёне, дзе ён, можна сказаць, пачынаў кар’еру, атрымалася забіць, – адзначыў Герашчанка.

Галоўны трэнер рэчыцкага «Спадарожніка» **Вячаслаў Ляўчук** падкрэсліў, што гульня для яго каманды не атрымлівалася ў першым тайме. Па яго словах, «збіліся на нейкі прымітыўны футбол».

**Ляўчук лічыць, што смаргонцы дыктавалі ўмовы гульні на працягу матча.**

– Той гол, што мы прапусцілі ў першым тайме, – гэта дзіцячая памылка цэнтральнага абаронцы. Ён дазволіў прыняць мяч такому майстру, як Леанід Ковель. Другі гол… Пабеглі ратаваць матч у надзеі нешта выціснуць са стандартнага становішча, але нарваліся на сустрэчную атаку, – пракаментаваў Ляўчук.

### Што далей

«Смаргонь» займае 14-е месца пасля шасці тураў чэмпіянату вышэйшай лігі. У сёмым туры смаргонскія футбалісты згуляюць супраць барысаўскага БАТЭ на выязной сустрэчы.

**Настасся УТКІНА.**

## Ад 1 мая пачынаюцца матчы ў другой лізе

**«Маладзечна» правядзе першы матч чэмпіянату другой лігі ў Чысці. Матч адбудзецца 1 мая на школьным стадыёне ў гарадскім пасёлку.**

Маладзечанскія футбалісты сустрэнуцца з камандай «Беразіно».

ФК «Вілія» правядзе матч супраць «Смалявічаў». Гродзенскую вобласць у другой лізе прадставяць дзве каманды з нашага рэгёна – «Астравец» і «Ашмянскі ФСК». Астравецкі клуб будзе гуляць у першым туры са «Слонім-Сіці», ашмянскі – супраць скідзельскага «ФСК Гродзенскі».

**Настасся УТКІНА.**

## Ашмянка паставіла пяць рэкордаў на чэмпіянаце Беларусі па паўэрліфтынгу

**17 красавіка ў Горках (Магілёўская вобласць) прайшоў чэмпіянат Беларусі па паўэрліфтынгу. У ім удзельнічала ашмянская спартсменка Лізавета Матарас. Матарас ходзіць у дзявяты клас, але ўжо паставіла пяць рэкордаў на чэмпіянаце краіны.**

У Горках Матарас заявілі ў дзвюх узроставых катэгорыях – сярод дзяўчын і сярод жанчын. І ў дзвюх з іх яна заняла першае месца і адпаведна атрымала залатыя медалі. Апроч гэтага ашмянская спартсменка паставіла пяць рэкордаў, два з іх перавысілі рэкорды Еўропы і свету.

**У абсалютным першынстве 15-летняя Лізавета Матарас узяла сярэбраны медаль.**

Матарас уваходзіць у тройку лепшых паўэрліфтэраў Беларусі сярод жанчын.

**Настасся УТКІНА.**




Фота чытача.

Лізавета Матарас з трэнерам Міхаілам Станкевічам.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Патрабаванне, запрашэнне з'явіцца куды-небудзь.
3. Прыродная або штучная чорная смалістая маса, якая выкарыстоўваецца ў некаторых галінах прамысловасці і якой пакрываюць дарогі, тратуары.
4. Істотна ў якіх-небудзь адносінах.
8. Спагадлівасць, чуласць у адносінах да людзей.
9. Урачыстая форма прывітання або аддача пашаны каму-, чаму-небудзь ружэйнымі або артылерыйскімі залпамі, падняццем ці апусканнем сцяга.
11. Народны духавы музычны інструмент з дзвюх і больш трубак, устаўленых у скураны мяшок або пузыр, які надзімаецца праз трубку.
12. Радавы ваеннаслужачы сухапутнага войска.
13. Своеасаблівае вымаўленне, уласцівае для тых, хто гаворыць на чужой мове.
17. Апрача.
20. Рэчыва, якое паскарае цячэнне хімічнай рэакцыі.
22. Беларуская пісьменніца, якая пражыла 36 год у СССР, але засталася грамадзянкай БНР, бо адмовілася прымаць савецкае грамадзянства.
25. Агародная культура сямейства парасонавых з саладкаватым аранжавага колеру караняплодам.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Унутраны бок кісці рукі.
2. Бяздомны чалавек, які не мае пэўнага прыстанішча і занятку.
5. Выдатны, агульнапрызнаны пісьменнік, дзеяч навукі або мастацтва.
6. Сарочка.
7. Празрыстая бясколерная вадкасць, якая ўтварае рэкі, азёры, моры і з'яўляецца хімічным злучэннем кіслароду і вадароду.
8. Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання або адважвання сыпкіх, вадкіх, газападобных рэчываў.
10. Маленькая пеўчая птушка атрада вераб'іных, якая выдзяляецца прыгожым спевам.
14. Прадпрыемства, на якім вырабляецца цэгла.
15. Частка нагі, дзе злучаюцца бядровая і галёначная косці; месца згібу нагі.
16. Поўнасцю, зусім, без астатку.
17. Праваднік або сістэма праваднікоў, якія служаць для выпраменьвання радыёхваль у час радыёперадачы або для іх улоўлівання ў час прыёму.
18. Выкуп, які ўносіцца жаніхом бацькам нявесты (у некаторых народаў Усходу, што захоўваюць перажыткі родавога быту).
19. Беларускі пісьменнік, які адным з першых падняў у літаратуры тэму чарнобыльскай катастрофы і яе сапраўдных маштабаў.
21. Канчатковыя паказчыкі якіх-небудзь дзеянняў, з'яў, развіцця чаго-небудзь.
23. Агульная назва натрыевых соляў вугальнай кіслаты, якія шырока выкарыстоўваюцца ў тэхніцы, медыцыне, быце.
24. Жаночае адзенне, а таксама частка сукенкі ад таліі ўніз.

## Адказы на крыжаванку з №17

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Радзіма. 3. Штука. 6. Мікрафон. 9. Цмок. 10. Цвёрды. 11. Штамп. 13. Цвік. 14. Экалогія. 17. Халва. 20. Маёр. 21. Цеста. 24. Макіяж.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Халат. 4. Хада. 5. Радок. 6. Маіс. 7. Хвароба. 8. Навынас. 11. Шчэпка. 12. Рунь. 13. Цемя. 15. Высвятляць. 16. Ліса. 18. Руіна. 19. Фішар. 22. Мова. 23. Рада. 25. Хімія.

## ГАРАСКОП НА 30 КРАСАВІКА – 6 МАЯ

**АВЕН.** Важныя справы, якія вы адкладалі на потым, лепш завяршаць адразу. Затое з чыстай душой будзеце адпачываць у выхадныя дні. Чакаюць сустрэчы з сябрамі.

**ЦЯЛЕЦ.** Паспрабуйце не рабіць лішніх рухаў цела цяпер. Навучыцеся дэлегаваць. Могуць падвесці сябры: будзьце гатовыя да нечаканых сюрпрызаў.

**БЛІЗНЯТЫ.** Выдатны час для перамоў. Нават вельмі крыўдлівыя людзі вам даруюць, калі правільна папрасіць пра гэта. Не раскідвайцеся грашыма: выдаткоўвайце ўмерана, з розумам.

**РАК.** Прыйшоў час папрацаваць над памылкамі. Прызнавайце свае прабелы, калі яны ёсць, і не саромейцеся прасіць аб дапамозе дасведчаных людзей. Дзеці могуць здзівіць сваімі ўчынкамі або развагамі.

**ЛЕЎ.** Калі вы не станеце адчайвацца, неўзабаве сітуацыя стабілізуецца. Чакайце фінансавых паступленняў, якія вы ўжо не спадзяваліся атрымаць.

**ДЗЕВА.** У дадзены перыяд усё будзе атрымлівацца. Пры гэтым не спатрэбіцца прыкладаць істотных высілкаў. Як мага часцей сустракайцеся з сябрамі, крыху больш, чым звычайна, выдаткоўвайце часу сабе.

**ШАЛІ.** Паспрабуйце не марнаваць час і энергію. Калі ад нейкіх спраў можна адмовіцца, зрабіце гэта. У выхадныя зрабіце рамантычны сюрпрыз для любімага чалавека, ён ацэніць.

**СКАРПІЁН.** Усе важныя сустрэчы ў гэты перыяд плануйце на ранішнія гадзіны. Яны будуць самыя прадуктыўныя. Па вечарах, наадварот, адпачывайце. Не спяшайцеся з высновамі: абавязкова дайце сабе час падумаць.

**СТРАЛЕЦ.** Калі вы хочаце памяняць штосьці ў сваім жыцці, пакуль адкладзіце перамены. У дадзены перыяд, наадварот, лепш залегчы на дно. Вялікія шанцы сустрэць будучае каханне.

**КАЗЯРОГ.** Напружаны час чакае на працы. Задач будзе шмат, а вось часу для іх выканання – не вельмі. Папрасіце дамачадцаў самім заняцца справамі па доме.

**ВАДАЛЕЙ.** Будзьце ўважлівыя: вялікая рызыка таго, што вас падвядзе хто-небудзь з блізкіх. Расслабцеся і прыміце гэта спакойна. Лепшы адпачынак цяпер – пасіўны. Паляжыце на канапе з кніжкай – гэта выдатны спосаб аднаўлення сіл для вас.

**РЫБЫ.** Усё, звязанае з домам, выйдзе на пярэдні план. Больш уважліва сачыце за ўласным здароўем. Магчыма, як абвастрэнне хранічных захворванняў, так і з'яўленне новых.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | | 5 | | | 2 |
| | 5 | | 8 | | | | 3 | |
| | | 6 | 4 | | | 8 | 9 | |
| | | | | 5 | 7 | | 2 | |
| 9 | | 7 | | 6 | | | 5 | |
| | 1 | 2 | | | 3 | | | |
| | 8 | 1 | | | | | 7 | 9 |
| | | | | 8 | 1 | | 4 | |
| | | | 6 | | 9 | | | 1 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by




## У рэгіёне паставілі новыя кантэйнеры для пратэрмінаваных лекаў

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ
ВІЛЕЙКА

**27 красавіка новыя кантэйнеры для збору пратэрмінаваных лекаў паставілі ў Вілейцы і Смаргоні.**

Гэта вынік ініцыятывы Цэнтра экалагічнага і сацыяльнага развіцця ў Баранавічах, якую падтрымалі мясцовыя ўлады і актывісты ў гарадах.

Пра тое, як усё адбывалася, нам расказала адна з заснавальніц цэнтра **Вікторыя Калач**:

– У Смаргоні мы паставілі кантэйнеры для збору пратэрмінаваных лекаў у раённай паліклініцы і яе філіяле. Смаргонь – гэта 17 горад у Беларусі і другі горад на Гродзеншчыне, дзе Цэнтр экалагічнага і сацыяльнага развіцця паставіў кантэйнеры. У Вілейцы новы кантэйнер з'явіўся ў аптэцы Мінскай фармацыі №219, што на вуліцы Гагарына. Вілейчукі маюць ужо трэці кантэйнер, – расказвае Вікторыя. – Яшчэ два стаяць у аптэках на вакзале і на вуліцы 1 Мая. Загадчыца аптэк, віляйчанка **Таццяна Гулецкая**, была адной з першых, хто прапанаваў нам прыехаць у горад і ўсталяваць кантэйнеры.

Арганізатараў цешыць тое, што ўсё больш актыўных людзей, ініцыятыў і арганізацый уключаюцца ў праект, шукаюць партнёрства для ўсталявання кантэйнераў у іх гарадах. Але буйныя гарады не вельмі актыўныя ў гэтым плане.

Наступным горадам, дзе з'явяцца кантэйнеры для збору пратэрмінаваных лекаў, павінна стаць Маладзечна. Цяпер падпісваюць неабходныя дакументы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота забяспечанае Вікторыяй КАЛАЧ.

Яўген Калач усталёўвае кантэйнер у Вілейцы.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Алесь Раткевіч расказвае гісторыю Лідзіі Мушавец – 97-гадовай жыхаркі вёскі Асавец, што на Маладзечаншчыне. Яшчэ дзяўчынай разам з сястрой Лідзія Дарафееўна трапіла ў Германію і некалькі год працавала на гаспадарцы ў нямецкага фермера.**

## 1 мая, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 2-3 м/с




Паводле rp5.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як ставіцеся да лозунга «Міліцыя з народам»?



**Раман:**
– Станоўча. Калі яны сапраўды дапамагаюць народу, то вельмі станоўча.



**Вольга:**
– Першая асацыяцыя, якая ўзнікае пасля гэтага пытання, – несправядлівасць.



**Таццяна:**
– Двухбакова. Некаторыя ўспрымаюць гэты лозунг як тое, што міліцыя павінна абараняць народ. Тое, што робіць міліцыя, яна робіць для народа, але не заўсёды гэта так.



**Сяргей:**
– Гэта несумяшчальна, таму нічога пра міліцыю сказаць не магу. Я не ведаю, з якой яна дзяржавы. Мы з розных дзяржаў, адзін аднаго не разумеем.



**Таццяна:**
– Не ведаю, наўрад ці яна з народам. У святле апошніх падзей мне здаецца, гэта мае меркаванне, што яна не з народам.



**Сяргей:**
– Вельмі добра! Міліцыянеры павінны быць нармальныя, абараняць народ. Мы ж падаткі плацім.

**Аддзел інфармацыі.**




Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№19 (1357) 30.04.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 710. Падпісана ў друк у 9.00 29.04.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.